Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

№5(617) 2 лютага 2012 года.

Кошт свабодны.

**Браслаўскі раён**

# Паддай парку, сусед!

■ **Станіслаў Раманчук**

**У халодныя зімовыя дні сапраўдная асалода пагрэцца на палку, добра папарыцца і затым памыцца ў лазні.**

Аднак да нядаўняга часу жыхары буйной вёскі-аграгарадка Ахрэмаўцы, размешчанай паблізу Браслава, не мелі такой магчымасці. Да радасці вяскоўцаў, цяпер у іх зноў запрацавала свая камфартабельная лазня. Яе гаспадар, мясцовы торфабрыкетны завод, пакінуў ад былога памяшкання адны толькі сцены. Пасля праведзенай рэканструкцыі ў будынку быў дабудаваны другі паверх, дзе абсталяваны пакоі для адпачынку. А для мясцовых жыхароў і не толькі з'явіліся новыя кабінкі для перапранання, нарэшце зручны санвузел для наведвальнікаў лазні, душавыя і мыечныя. І канешне ж, з добрым густам абсталявалі саму парылку, без якой проста нельга ўявіць любую беларускую лазню, якая можа паспрачацца па карысці для здароўя са славутай фінскай саўнай. Пакуль жа ў гэтым мястэчку новая лазня працуе толькі два разы на тыдзень – па пятніцах і суботах. Кошт уваходнага білета даволі прымальны – 7 тысяч рублёў. Дарэчы, адміністрацыя завода прадастаўляе і дадатковую паслугу: калектыўную лазню можна зказаць і на іншы дзень тыдня, калі будзе дастаткова жадаючых асвяжыць душу і цела. У самім азёрным краі нямала людзей - аматараў лазні; летась у раёне правялі нават першы лазневы чэмпіянат, працяг якога намячаецца прадстаячым летам.

**Пастаўскі раён**

# Адкуль браць малако?

■ **Кастусь Александровіч**

**Чарговую “грандыёзную” праграму развіцця малочнай галіны Віцебшчыны на 2012-2015 гады зацвердзілі днямі на сесіі, як заўсёды аднадушна, дэпутаты абласнога савета.**

Задачы перад аграрыямі і прадпрыемствамі мясамалпрама пастаўлены ашаламляльныя: выйсці за кароткі тэрмін на першае месца ў Беларусі і пабудаваць 102 сучасныя фермы з даільнымі заламі, хоць на месцах не ведаюць, адкуль браць сродкі на гэта. Яшчэ раней было вырашана пабудаваць на Пастаўскім малочным заводзе па-сутнасці новы сучасны сыраробны завод. На гэтым прадпрыемстве актыўна вядзецца такая праца, закуплена асноўнае імпартнае абсталяванне акрамя пусканаладачных работ, якія праводзяцца на новых ачышчальных збудаваннях. Робіцца ўсё, каб магутная вытворчасць цвёрдых сыроў была здадзена ў эксплуатацыю ў пачатку 2013 года. Вось толькі зараз выйшла новая неспадзяванка: новы завод запатрабуе штодзень паставак дадаткова, як мінімум, 100 тон малака. На Пастаўшчыне, нават калі сельгаспрадпрыемства “Навасёлкі-Лучай” знойдзе сродкі, каб здаць першую чаргу сучаснай фермы ў Коўзанах з робатамі, атрымаюць дадаткова 20 тон малака сорта “экстра”. А дзе ўзяць яшчэ малочнай сыравіны - проста не ведаюць. Справа ў тым, што на 32 фермах у раёне дояць кароў дзедаўскім спосабам - у вядро. І нават пасля рэканструкцыі сёлета 12 такіх жывёлагадоўчых памяшканняў з малакаправодамі надої рэзка не падымуцца. Спецыялістам вядома, што каб палепшыць справы ў галіне, трэба многае: і значна лепшы статак з кармавой базай, і падрыхтаваныя кадры, і адпаведная база, а галоўнае, шмат грошай, якіх кот наплакаў. Але ў нас прывыклі спачатку замахнуцца на новую вышыню, а потым ужо ламаць галаву, як да яе дабрацца.

**Мёрскі раён**

# Духоўнасць пачынаецца са слова

■ **Чэслаў Якубовіч**

**З пачэснай мэтай аздараўлення духоўнасці грамадства, паляпшэння выхавання падрастаючагапакалення ў Беларусі аб'явілі 2012 год Годам кнігі.**

Гэту навіну з асаблівым энтузіязмам сустрэлі ў калектыве сярэдняй школы № 3 у Мёрах, у якой створаны і працуе свой цікавы музей беларускай кнігі і друку. Таму і без каманд зверху тут распрацавалі шэраг цікавых мерапрыемстваў па правядзенню Года кнігі ў школе. Найперш, паколькі ёсць багацейшы кнігазбор знойдзеных падчас вандровак па краю рэдкіх кніг і выданняў, вырашылі арганізаваць спецыяльную выставу для тых, хто цікавіцца сваімі каранямі і мінуўшчынай роднай зямлі. Акрамя гэтага ў СШ № 3 пройдуць сёлета юбілейныя вечарыны, прысвечаныя творчасці знакамітых мясцовых пісьменнікаў Сяргея Панізніка і Пятра Сушко. Будуць арганізаваны таксама цікавыя экспазіцыі лепшых беларускіх кніг і выданняў вядомых айчынных аўтараў з аўтографамі. Для моладзі на працягу года пройдуць шэраг тэматычных літаратурных віктарын і конкурсаў, прэзентацый кніг і творчых сустрэч з іх аўтарамі. На школьным сайце з'явілася ўжо адпаведная інфармацыя. Дарэчы, кіруе дзейнасцю школьнага музея кнігі і друку апантаны педагог, краязнаўца, лаўрэат ганаровага звання “Чалавек года Віцебшчыны” Вітольд Ермалёнак. Кіраўнік музея задумаў добрую ідэю, якую падтрымалі калегі і вучні. У райцэнтры пачалася праца па стварэнню свайго віртуальнага друкаванага музея ў Інтэрнеце, якія ствараюцца па ўсяму свету. Прычым усе рыхтуемыя матэрыялы адсюль можна будзе прачытаць як на беларускай, так і на англійскай мовах.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 02.02.12 | | | | Пятніца 03.02.12 | | | | Субота 04.02.12 | | | | Нядзеля 05.02.12 | | | | Пнд. 06.02.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -19 | -22 | -17 | -20 | -23 | -23 | -17 | -20 | -25 | -27 | -18 | -19 | -19 | -18 | -13 | -13 | -14 | -12 | -8 |
| Ціск | 766 | 765 | 765 | 765 | 765 | 765 | 766 | 767 | 768 | 768 | 769 | 768 | 767 | 766 | 765 | 765 | 764 | 763 | 763 |
| Вільготнасць | 85 | 83 | 57 | 75 | 88 | 94 | 74 | 79 | 80 | 90 | 63 | 82 | 85 | 92 | 73 | 86 | 90 | 95 | 76 |
| Вецер м/сек | В 2 | ШТЛ 0 | С-В 1 | С 3 | С 2 | С-З 2 | С 2 | С-З 4 | З 4 | З 5 | С-З 2 | С 2 | С 2 | С 3 | С 5 | С 5 | С-В 5 | В 2 | В 3 |
| | | 08:58 | 17:46 | | | 08:57 | 17:49 | | | 08:55 | 17:51 | | | 08:53 | 17:53 | | 08:51 | 17:55 | |



# Лічба нумара

**600** –

**столькі рабочых** буйнога прадпрыемства краіны РУП “Граніт”, размешчанага ў гарпасёлку Мікашэвічы, як ужо паведамлялася ў друку, напрыканцы мінулага года напісалі заявы аб выхадзе з афіцыйнага прафсаюза. Такога “разгула” дэмакраты на фоне незадавальнення нізкімі заробкамі і адносінамі да працаўнікоў начальства ў нас даўно не назіралася, і аб гэтым прамаўчала, праўда, наша самае чэснае ў свеце БТ. Як і аб тым, што амаль 200 мясцовых работнікаў заявілі тады аб сваім пераходзе ў Беларускі незалежны прафсаюз.

Нечуваная справа ўзнікла, паколькі незадаволеныя рабочыя сталі дабівацца рэгістрацыі сваёй незалежнай прафсаюзнай ячэйкі і рэгістрацыі яе на тэрыторыі Лунінецкага раёна. Самае цікавае, што гэтыя падзеі мелі свой працяг цалкам у русле айчынных рэалій. Каб спусціць сітуацыю на тармазах, ужо сёлета ў Мікашэвічах пабываў кіраўнік Брэсцкай вобласці К. Сумар разам з галіновым міністрам і супакоіў калектыў, пятая частка якога ледзь не ўзбунтавалася. Пасля гэтага на прадпрыемстве зарплату паднялі, дваіх яго ўпраўленцаў звольнілі з працы ( яны адарваліся ад калектыва), але і пастараліся заглушыць ініцыятыву па стварэнню альтэрнатыўных прафсаюзаў.

Усё ў Беларусі так сталася, што знаходзіцца пад пільным кантролем каго трэба. Назіраліся апошнім часам падобныя рабочыя хваляванні таксама ў Магілёве і Віцебску. У першым абласным горадзе на домабудаўнічым камбінаце стварылі восенню нават забастовачны камітэт і дабіліся павелічэння зарплат і паляпшэння ўмоў працы. Праўда, паўсюдна не абышлося без сапраўднага ціску на рабочых актывістаў, з шэрагам з іх не прадоўжылі працоўныя кантракты. Аб такой дыскрымінацыі Беларуская канфедэрацыя незалежных прафсаюзаў праінфармавала адпаведныя міжнародныя структуры.

Тым не менш, пакуль у Беларусі няма падстаў для пашырэння такіх пратэстных настрояў і проста неверагодна, што могуць адбыцца шматтысячныя акцыі пратэсту, якія накрылі Румынію і Венгрыю. Тыя ж румыны, як і беларусы, летась перажылі сур'ёзны эканамічны крызіс: заробкі знізіліся на 25 %, а рэальныя пенсіі – на 15 %. Асабліва ўзмацніліся ў румынскіх гарадах акцыі пратэсту пасля намечаных балючых рэформ у сферы аховы здароўя і аб'яўленых уладамі мер бюджэтнай эканоміі.

У нас жа абстаноўка сёлета застаецца няпэўнай, бо большасць беларусаў не ведаюць, як будзе развівацца эканамічная сітуацыя далей. Быццам змяніўся ў бок скарачэння механізм фінансавання дзяржпраграм, аднак устанавілі даплаты пажылым пенсіянерам старэй 75 гадоў і з лютага павысілі пенсіі ўсім суайчыннікам на заслужаным адпачынку ў сярэднім на 24 %. Пакрыху павышаюцца заробкі бюджэтнікам, але навучаныя жыццём людзі ў чаканні, як павядзе сябе ў гэтым годзе інфляцыя, бо запланаваны яе даволі высокі ўзровень у канцы года 19-22 %.

Летась жа, не ўсе ведаюць, рублёвая маса ў Беларусі вырасла на рэкордныя 64 %, але як упаў наш жыццёвы ўзровень і якія непад'ёмныя для большасці сталі банкаўскія крэдыты. Самае страшнае, што існуе рэальная небяспека паўтарэння леташніх цяжкасцей, бо зноў эканоміку прымушаюць забяспечыць нерэальны ростам ВУП на ўзроўні 5,5 %. Нам прыйдзецца пачаць аддаваць значныя знешнія даўгі, а разлічваць можна яшчэ на два траншы фонда ЕўразЭС, продаж, нарэшце, актываў кампаніі МТС.А пакуль першымі ў краіне адчуюць, што такое жыць па сродках, індывідуальныя прадпрымальнікі, для якіх мясцовыя ўлады павялічаць стаўкі адзінага падатку.

У цэлым жа беларусы, падобна на тое, прывыклі да пагаршэння свайго жыццёвага ўзроўню. Гісторыі, падобныя на падзеі ў Мікашэвічах, пакуль працягу мець не будуць, бо ўсюды людзі баяцца страціць працу. Калі такое здараецца,то тыя, хто страціў работу, спрабуюць самастойна пракарміць сям'ю і найчасцей едуць на заробкі ў суседнія краіны, у першую чаргу ў Расію. А як жыць інакш, паколькі ў Беларусі зараз больш 2600 стратных дзяржпрадпрыемстваў і Мінэканомікі РБ прапануе сёлета правесці іх льготную прыватызацыю. Аднак у нас дзяржава – самы вялікі ўласнік маёмасці і баіцца любых рэформ.

## Дзень за днём

**Пасля некаторага перапынку зноў беларускія ўлады пачалі друкаваць пустыя грошы, рост рублёвай масы толькі ў снежні на 13 % неўзабаве прывядзе да абясцэньвання нацыянальнай валюты. Між тым летась у Беларусі ва ўмовах гіперінфляцыі цэны ха харчаванне выраслі ў сярэднім у 2,23 разы, на шэраг прадуктаў – яшчэ болей. Рэальныя ж памеры пенсій летась зменшыліся на 23 %, скараціліся і заробкі людзей, а самі беларусы за год атрымалі рэкордную колькасць – 428 тысяч шэнгенскіх віз. Сёлета спецыялісты прадказваюць сур'ёзны рост цэн на паліва, тарыфаў на транспарт і ЖКГ. Айчынныя ВНУ пачалі разглядаць варыянты скарачэння тэрмінаў падрыхтоўкі па шэрагу спецыяльнасцей.**

## Важнейшыя навіны свету

**Кітай.** Упершыню ў гісторыі самай густанаселенай краіны свету ў канцы 2011 года ўдзельная вага гараджан (51,27 %) перавысіла колькасць сельскага насельніцтва.

**Бельгія.** Нягледзячы на крызіс еўра, апытанне статыстычнай службы ЕС – Еўрабарометра засведчыла, што 61 % жыхароў ЕС ацэньваюць сваё фінансавае становішча "добрым".

**Венесуэла.** Прэзідэнт Уга Чавес паставіў чарговы асабісты рэкорд працягласці выступлення, перад нацыянальнай асамблеяй вынікі года ён падводзіў амаль 11 гадзін.

**Украіна.** Прэм'ер-міністр М. Азараў пацвердзіў, што краіна ставіць задачу ў 2012 годзе рэзка скарацiць спажыванне расійскага газу і перайсці на ўласны вугаль.

**Італія.** Не раней, чым праз паўгода, стануць вядомы прычыны загадкавага крушэння суперсучаснага круізнага лайнера "Коста Канкордзія", на борце якога былі і 3 беларусы.

**Фінляндыя.** Былы віцэ-прэзідэнт МАГАТЭ Оллі Хайнанен заявіў, што ўжо праз год Іран атрымае на сваім заводзе столькі ўрану, што стане магчымым ствараць атамныя бомбы.

**Лівія.** Глава МЗС часовага ўрада Ашура бін Хаель паведаміў, што заходнія банкі пачалі вяртаць у краіну скрадзеныя рэжымам Кадафі активы ў суме амаль 150 млрд. долараў.

**ЗША.** Як сказаў дарадца дзяржсакратара ЗША Філіп Гордан, ЗША не супраць пабудовы Беларускай АЭС, але не бачаць будучыні ў адносінах з РБ з-за яе ўнутранага курсу.

**Украіна.** Рашэнне краіны купіць у РФ сёлета па кабальных цэнах толькі 27 млрд. куб. газу з 52 выклікала незадавальненне Крамля, які не можа ўзяць пад кантроль тут газавую трубу

**Расія.** Вельмі шмат вядомых расійскіх журналістаў (У. Познер, Д. Быкаў, Б. Акунін і інш.) дэманстрацыйна адмовіліся ад удзелу ў цырымоніі з удзелам прэм'ер-міністра У. Пуціна.

**Кітай.** Будтрэст Broad Group усяго за 15 дзён узвёў 30-павярховы сейсмаўстойлівы гатэль з гатовых металаканструкцый дзякуючы сучаснаму менеджменту і майстэрству рабочых.

**Расія.** За час кіравання У. Пуціна краіна атрымала толькі нафтадолараў 1,5 трлн. $, але не пабудавала ніводнай дарогі класу аўтабан, калі Кітай цяпер мае 60 тыс. км такіх аўтатрас.

**КНДР.** Жыхароў краіны, якія не захоўвалі жалобу з нагоды смерці "вялікага" лідара Кім Чэн Іра, "народныя" суды пры парткамах пакаралі да 6 месяцаў працоўных канцлагераў.

**Іран.** Пасля узмацнення міжнародных санкцый у краіне выбухнуў востры валютны крызіс, за 1 $ сталі даваць 18 тысяч рыалаў, валюту цяжка набыць,улады забаранілі слова "долар".

**Аўстрыя.** Бяздомны 48-гадовы жыхар сацыяльнага прытулку Вены Херман Шляйхерт, як сапраўдны чалавек, знайшоў на вуліцы канверт з 7 тысячамі еўра і вярнуў іх гаспадару.

## У Беларусі з 1 лютага падаражэюць цыгарэты




■ afn.by

**У Беларусі зноў даражэюць цыгарэты: на сайце Міністэрства па падатках і зборах размешчана інфармацыя аб максімальных рознічных цэнах, якія ўводзяцца з 1 лютага.**

Пры гэтым цэны будуць павялічаны на цыгарэты II і III цэнавай групы, у той час як I цэнавай групы застануцца на ранейшым узроўні.

У прыватнасці, такія маркі, якія выпускаюцца на фабрыцы «Нёман», Monte Carlo Super Slims падаражэюць на 10% да 5 500 рублёў, Cooper — на 14,6% да 4700 рублёў, Winston XS — на 5,3% да 7900 рублёў, Winston Super Slims — на 6,9% да 7700 рублёў, Glamour Super Slims — на 4,3% да 7200 рублёў.

Цыгарэты вытворчасці Тытунь-інвест West Compact падаражэюць на 3,2% да 6400 рублёў, West — на 3,3% да 6200 рублёў, Monte Carlo — на 10,0% да 5500 рублёў, Golden Gate — на 8,9% да 4900 рублёў, Winston — на 7,1% да 7500 рублёў.

У студзені цыгарэты ў Беларусі падаражэлі на 10–30%.

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пад кадравую чыстку ў МУС РБ трапіў і першы намеснік міністра палкоўнік А. Пякарскі, на змену яму на чале крымінальнай міліцыі прыйшоў дзеяч КДБ Ігар Шуневіч.

**Салігорск.** На фоне паспяховай работы кампаніі нечакана адправілі ў адстаўку па пагадненню бакоў гендырэктара ЗАТ "Беларуская калійная кампанія" У. Нікалаенку.

**Мінск.** На працягу месяца філіялу Нацыянальнага гістарычнага музея загадалі перадаць без выплаты памяшканне коштам 18,7 млрд. у апаратыўнае кіраванне Следчаму камітэту.

**Столін.** Паблізу дома знайшлі закапанай у зямлі забітую на Новы год ў вёсцы Лядзец васьмікласніцу ў 100 м ад яе хаты, у зверстве падазраецца 17-гадовы мясцовы хлопец.

**Ляхавічы.** Пры лабараторных даследваннях у Мінску ў захварэўшых і змешчаных у ЦРБ 14 юных расійскіх дзюдаістаў быў выяўлены наравірус, узбуджальнік адной з інфекцый.

**Бабруйск.** Мясцовая кампанія Heineken у РБ (мае і "Рэчыцапіва") стала лідарам піўнога рынку Беларусі з 11,4 млн. дал піва на ўнутраным продажы, апярэдзіла "Крыніцу".

**Мінск.** Усе ВНУ краіны ў 2014 годзе, як паведаміў прарэктар БДУІР Барыс Нікульшын, пяройдуць на аўтаматызаваную сістэму падачы заяў аб паступленні і залічэння на вучобу.

**Гомель.** Прыватная мінская фірма "Хорс-Мотарс" набыла вялікі пакет акцый мясцовага маторарамонтнага завода і планує пачаць тут выпуск айчынных скутараў на экспарт у РФ.

**Шклоў.** Суд у калоніі № 17 перавеў экс-кандыдата ў прэзідэнты, кандыдата навук Мікалая Статкевіча ў турму Магілёва на 3 гады, зрабіў больш жорсткім рэжым адбыцця пакарання.

**Гродна.** Старшыня афіцыйнага Саюза палякаў РБ Станіслаў Сямашка падаў заяву аб звальненні, бо ў арганізацыі дрэнна з фінансамі, ён мае ўласныя гатэлі тут і ў Шчучыне.

**Рэчыца.** Падчас работ у лесе днём пры спілаванні дрэва абламалася яго верхавіна, ударыла па галаве і забіла 25-гадовага жыхара райцэнтра, работніка мясцовага лясніцтва.

**Горкі.** У рамках падрыхтоўкі да рэспубліканскіх "Дажынак-2012" у райцэнтры плануюць зносіць дом, у якім у 1926-1928 гадах жыў класік беларускай літаратуры Максім Гарэцкі.

**Ваўкавыск.** На АЗС паблізу райцэнтра з'явілаася незвычайная скульптурная кампазіцыя з героя папулярнага мультфільма "Ну, чакай!" – Ваўка на старым матацыкле і Зайца побач.

**Магілёў.** Упраўленне ідэалагічнай работы аблвыканкама рэкамендавала раённым газетам вобласці перайсці сёлета на аднаразавы штотыднёвы выпуск у павялічаным фармаце.

**Пінск.** Міліцыя ўстанавіла, што 18-гадовая жыхарка горада, студэнтка Горацкай сельгасакадэміі быццам нарадзіла дзіця, задушыла яго і выкінула потым на сметнік.

## Бюджэт пражытачнага мінімуму павышаны да 706 880 рублёў

■ БелТА

**У Беларусі зацверджаны новы бюджэт пражытачнага мінімуму, паведамілі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны.**

Пастановай Савета Міністраў № 86 ад 26 студзеня 2012 г. зацверджаны бюджэт пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва і па асноўных сацыяльна-дэмаграфічных групах у цэнах снежня 2011 г. у разліку на адзін месяц.

Перыяд дзеяння гэтых сацыяльных нарматываў — з 1 лютага па 30 красавіка 2012 года.

Бюджэт пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва з лютага складзе Br706 тыс. 880. Новы БПМ павысіўся на 23% да нарматыву, які дзейнічае з 1 лістапада 2011 года па 31 студзеня 2012 (574 тыс. 790 рублёў).

Для працаздольнага насельніцтва БПМ устаноўлены ў памеры 764 тыс. 970, для пенсіянераў — 567 тыс. 510 рублёў, для дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў — 581 тыс. 240, для дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў — 742 тыс. 830 рублёў, для дзяцей ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў — 759 тыс. 980, для дзяцей-студэнтаў — 690 тыс. 340.

Паколькі новы БПМ павысіўся на 23%, адпаведна з лютага на 23% ўзрастаюць памеры дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей.

Павялічаны памеры сацыяльных пенсій, а таксама надбаўкі і павышэнні, устаноўленыя да пенсій асобных катэгорый пенсіянераў.

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Глава вобласці А. Косінец загадаў у 2 разы павялічыць прадукцыйнасць працы, скарачаць штаты, што нібы дазволіць да канца года павялічыць заробкі да 500 $ /месяц.

**Полацк.** Неспадзявана для сябе 6 гараджан сталі фігурантамі крымінальнай справы за ліпавае "кіраўніцтва" за ўзнагароджанне падстаўнымі лжэ-фірмамі па адмываннню грошай.

**Верхнядзвінск.** На пункце пропуску "Бігосава-1" пры афармленні на выезд грузавога цягніка ў Латвію зноў знайшлі ў вагоне з вугалем кантрабандны груз 50 каробак цыгарэт.

**Віцебск.** Незадаволеная заробкамі і стаўленнем да сябе адміністрацыі з афіцыйнага прафсаюза ледзь не выйшла поўнасцю брыгада ДКУП "Сельскі будаўнічы камбінат".

**Глыбокае.** У райцэнтры запланавалі пашырыць і спраміць русла рэчкі Крывой да Дня беларускага пісьменства, каб можна было лёгка праплыць з возера Кагальнае ў Вялікае.

**Ушачы.** Пасля рэканструкцыі на гароднінасушыльным заводзе на новай лініі пачалі разліваць мінеральную ваду "Вечалле" і 27 відаў напіткаў да 3 тысяч бутэлек у гадзіну.

**Сянно.** Школа-інтэрнат з поспехам удзельнічала ў Маскве ў III Агульнарасійскай выставе "Лепшае – дзецям" са сваімі швейнымі і сталярнымі вырабамі, іх прадалі на 3 млн. рублёў.

**Шаркаўшчына.** Заклапочанасць дзяцей, іх бацькоў і педагогаў музычнай школы выклікала рашэнне ўладаў забраць іх памяшканне для размяшчэння Следчага камітэта.

**Віцебск.** Толькі летась, як паведаміла БТ, у развіццё горада ўклалі 2 трлн. 300 млрд. рублёў, у планах – вялізны аквапарк, гарналыжны комплекс, на рэгіёны грошай не хапае.

**Лепель.** Міліцыя распачала крымінальную справу супраць 63-гадовага пенсіянера за збыт фальшывых грошай, купюр вартасцю 50 тыс. рублёў, надрукаваных на каляровым прынтары.

**Гарадок.** На метэастанцыі Езярышча зафіксавалі рэкордны сёлета для Беларусі снегапад, за дзень вышыня снежнага покрыва дасягнула 18 см, тут і найхаладней у краіне.

**Талачын.** Па віне ўкраінскага вадзіцеля, які выехаў на сустрэчную паласу днём на трасе М1, у ДТЗ загінуў 48-гадовы беларус, атрымалі раненні расіянка і азербайджанка.

**Віцебск.** У абласным цэнтры ўстановяць сёлета першы ў РБ сфетлафор з відэафіксацыяй парушэнняў правілаў дарожнага руху пешаходамі, летась па іх віне тут здарылася 113 ДТЗ

**Глыбокае.** У райцэнтры дзеля барацьбы з п'янствам прыдумалі новы спосаб: продаж пладова-ягадных він, "чарніла" дазволены тут з 10.00 да 12.00 і з 14.00 да 18.00 гадзін.

**Наваполацк.** Міжнародная федэрацыя водных лыж і вейкборда прызнала лепшай у свеце леташнюю 3-хразовую чэмпіёнку свету, 29-гадовую наваполачанку Наталію Берднікаву.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Гэта быў першы выезд – і паспяховы

■ Любоў Нікіціна,
*Ветэран педагагічнай Працы.*

**Паважаныя чытачы! Падзяліце, калі ласка, нашую радасць і гонар пераможным поспехам таленавітага і працалюбівага калектыву Падсвільскага Дома культуры, аб чым мы і хочам паведаміць землякам-глыбачанам.**

Справа ў тым, што сямейны клуб “Вернасць”, які створаны пры Доме культуры яго мастацкім кіраўніком Наталляй Сяргееўнай Матусевіч два гады таму назад 26 лістапада прадстаўляў Глыбоцкі раён у г. Верхнядзвінску на абласным конкурсе сямейных клубаў “Сям’я Прыдзвіння”. Гэта быў першы выезд – і паспяховы. “Вернасці” было аддадзенае першае месца.

У клубе – 13 сямейных пар з розным сямейным стажам. Але ўсіх іх аб’ядноўвае любоў да мастацтва, да творчасці. Збіраюцца на свае пасяджэнні члены клуба раз на два месяцы. Рыхтуюць вечарыны, выставы, выезды на прыроду, бяруць актыўны ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах Дома культуры, ва ўсіх праектах. На абласны конкурс выязджала 5 сямейных пар.

1) **Рудак:**
Людміла (выкладчык Падсвільскай музычнай школы), Сяргей (будаўнік), іх сын Лёша (10 год, школьнік);

2) **Фурс:**
Ала (ІТР, вінзавод), Васіль (рабочы ПМК), іх дачка Яна (6 гадоў);

3) **Канцыял:**
Алена (спартыўны кіраўнік дзэтсада), Андрэй (вадзіцель), іх дачка Маша (5 гадоў);

4) **Сівіцкія:**
Валянціна (педагог), Віктар (сувязіст), іх дачка Аня (9 гадоў);

5) **Шымко:**
Валянціна (акампаніятар ДК), Аляксандр (рабочы райспажыўсаюза).

Адкрылі падсвільчане сваю праграму візітнай карткай “Разам дружная сям’я”. Гэта было тэатралізаванае шоу з удзелам усіх членаў 5 сем’яў. У творчым конкурсе “Вясёлка сямейных талентаў” дарослыя члены клуба – бацькі – прадставілі інсцэніроўку песні з рэпертуару Лаліты “Я пакрыўдзілася”. А вось дзецям дасталася дэманстрацыя і абарона фірмовага блюда “Татавы сямейныя бліны”.

Да конкурсу члены клуба падрыхтавалі і прадставілі выставу вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва “Майстровая сям’я – утульны дом” і фотавыставу “У гасцях у клуба”, якая апавядала аб буднях і святах сямейнага клуба “Вернасць”. Арыгінальным, адзіным у сваім родзе з’явіўся на конкурсе “Дрэва жыцця”, плакат да Радаводу сем’яў, якія бралі ўдзел у конкурсе. Гэта – цудоўны твор рук членаў клуба!

Мы, падсвільчане, віншуем Клуб і яго кіраўніка Наталлю Сяргееўну Матусевіч з вялікім поспехам, ганарымся і зычым далейшых Перамог. Дзякуй вялікі Вам, людзі, якія ўлюбёныя ў мастацтва і творчасць.



**Ура! Мы – перамаглі!**
Усе члены клуба «Вернасць». Злева – кіраўнік клуба Наталля Сяргееўна Матусевіч, справа – дырэктар Падсвільскага ДК Тамара Уладзіміраўна Сцяпанава.



**Выстава фота-і дэкаратыўна-прыкладной творчасці сямейнага клуба «Вернасць». Удзельнікі клуба: Аня Сівіцкая і Лёша Рудак.**



**Удзельнікі сямейнага клуба «Вернасць» перад выступленнем.**
«Я пакрыўдзілася» – інсцэніраваная песня ў іх выкананні.

# Глыбокае – горад «хлебны»!

***Раней усе ездзілі на закупы ў Вільню, цяпер - у Глыбокае***

■ Уладзімір Скрабатун

Гадоў 7 таму, калі ў Глыбокім бурылі адну з пабудоваў замка Радзівілаў, у аўтара гэтых радкоў адбылася спрэчка з адным глыбоцкім чыноўнікам. Аўтар даказваў мэтазгоднасць захавання гэтага старажытнага будынка дзеля прапаганды нашай гісторыі і развіцця турызму. Чыноўнік даказваў адваротнае: турызм развіваць не выгадна, а вось калі знясём замак, і на гэтым месцы пабудуем магазін, то ўсім будзе выгадна. Вось едуць людзі на фэст у Паставы, а да нас паедуць на закупы!

Прайшоў час, і на закупы ў «Эліс», якая паўстала на замчышчы, так ніхто й не паехаў.

І здавалася, што гэтая ідэя – «пшык». Глыбокае – не «хлебны» горад. Але, раптам адчынілі «Еўраопт»...

У мінулую суботу прыехаў дызельцягнікам да мяне адзін знаёмы з Паставаў і кажа: «Зайшоў да цябе толькі на пару хвілінаў. Выбачай! Бягу ж у ваш «Еўраопт». Столькі заказаў надавалі! Усё так танна! Дачка заказала пракладкі. Вось, напрыклад, упакоўка жаночых гігіенічных пракладак у Паставах каштуе на 8 тысячаў даражэй, чым у вашым «Еўраопце». Дарога ж каштуе 5 тысячаў рублёў. Калі набыць 2 упакоўкі, то эканомія – 6 тысячаў рублёў (16 тыс. руб. – 10 тыс. руб. дарога = 6 тыс. руб.). Калі купіць шмат рознага тавару, то эканомія – унушальная!

Раней усе з Глыбокага і Паставаў ездзілі на закупы ў Вільню. Цяпер жа наадварот – едуць у Глыбокае. Толькі ў адным Парыжы (п.п. Навадруцк) села чалавек 25. Я прыслухаўся, аб чым людзі размаўляюць па мабільных тэлефонах. Аказваецца, плануюць закупы, прымаюць заказы ад суседзяў і сваякоў, хтосьці ўдакладняе жончына заданне: «А куды яшчэ пайсці пасля «Еўраопта»? – Схадзі потым і ў мясакамбінатаўскі магазін,– настойвае жонка.

Малайцы вашыя ўлады!».

Мяне асабіста (і не толькі мяне) палохае той тлум, які пануе ў нашым «Еўраопце». Гэта неяк адбівае ахвоту туды патрапіць. Будынак – яўна замалы для такога прывабнага аб'екту гандлю. Вось, напрыклад, у Маладзечне узводзяць новы будынак «Еўраопту» разоў у 5 большы па плошчы, чым наш. Але, што тут кпіць, людзі нашага рэгіёну ўдзячныя і за гэта.

# 390 тавараў афіцыйна прызнаныя «лепшымі ў Беларусі»

**390 тавараў названыя «Лепшымі ў Беларусі». Пераможцы вызначаны па выніках 10-га конкурсу «Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь», які праводзіўся ў 2011 годзе Дзяржстандартам сумесна з абласнымі выканкамамі і Мінскім гарадскім выканкамам.**

Паводле звестак прэс-службы Дзяржстандарта, традыцыйна найбольш прадстаўнічай стала намінацыя «харчовыя тавары» — тут лепшымі прызнаныя 222 найменні прадукцыі 99-ці прадпрыемстваў.

У намінацыі «Прадукцыя вытворча-тэхнічнага прызначэння» вызначаны 94 тавары-пераможцы 64 прадпрыемстваў; «Прамысловыя тавары для насельніцтва і вырабы народных промыслаў» — 68 тавараў, якія выпускаюцца 42 арганізацыямі. Звання лаўрэата конкурсу ў намінацыі «Паслугі насельніцтву» ўдастоена шэсць арганізацый, а статус «Навінка года», заснаваны для стымулявання выпуску новых відаў прадукцыі, прысуджаны 37 таварам рознага прызначэння 29 арганізацый.

Сярод прадпрыемстваў, чые тавары ўжо не адзін год прызнаюцца лепшымі, — ААТ «Савушкін прадукт», «Малочны свет», «Бярозаўскі сыраробны камбінат», кандытарскія фабрыкі «Спартак» і «Камунарка», Барысаўскі, Бабруйскі, Віцебскі мясакамбінаты, кампаніі «Світанак», «Марка», «Добрушскі фарфоравы завод», «Гомсельмаш», «Рэчыцкі метызны завод», «Беларускі металургічны завод», «Мінскі трактарны завод» і інш.

Арганізацыям, тавары якіх удастоены звання лаўрэата, акрамя ўручэння дыпломаў, будзе дадзена права размяшчэння лагатыпа конкурсу на таварах і іх упакоўцы, а таксама ў дакументацыі і рэкламных матэрыялах.

Конкурс «Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь» праводзіцца штогод з 2002 года. Яго мэта — «інфармаванне насельніцтва і арганізацый аб якаснай айчыннай прадукцыі і паслугах у інтарэсах іх прасоўвання на ўнутраным і знешнім рынках; садзейнічанне забеспячэнню спажывецкага рынку рэспублікі высакаякаснымі і канкурэнтаздольнымі айчыннымі таварамі; выяўленне новых, найбольш дасканалых відаў прадукцыі з палепшанымі характарыстыкамі, якія выпускаюцца з прымяненнем прагрэсіўных тэхналогій».

***Марына Носава, БелаПАН.***

# Мястэчка Глыбокае

## Гаспадарка мястэчка Глыбокае на пачатку XIX стагодзьдзя

**Аляксандр Івашчонак,** *бакалаўр гісторыі.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

**Працяг.**

*Пачатак у №4(616) за 26 студзеня 2012 года*

### Гаспадарчы дзядзінец кляштара з вінакурняй

На дзядзінцу[1] пад адным дахам знаходзіліся памяшканьне эканома, сталярня і валавы млын. Сам будынак быў цагляны, атынкаваны і пабелены, дзьверы дубовыя на завесах з унутраным замком на ключ, дах быў пакрыты гонтам і дахоўкай. Адразу па ўваходзе быў калідор. На права ад уваходу знаходзілася сталярня, якая мела два вялікія вакны, са шклом і жалезнымі кратамі, якія адчыняліся па палове, шведская печ з чыгуннымі юшкамі і бляшанымі дзьверкамі, падлога цагляная, сьцены атынкаваныя і пабеленыя.

У сталярні знаходзіліся 3 станкі, два старыя (адзін з пасам і адзін з шуфлядай) і адзін новы з пасам. Акрамя таго 3 пілы розных памераў, піла Grat, 7 сьвярлоў, 15 далатоў, 29 гэбляў розных тыпаў, 2 расьпільнікі, дыямэнт для пілаваньня шкла, 3 корбы, 5 сякер, стружак, склют, паўсклютак, шлятвір, зыгель.

За сталярняй знаходзілася памяшканьне эканома, якое складалася з двух пакояў, такіх самых, як і сталярня, з розьніцай у тым, што шведская печ была аздоблена шэрай кафляй. За ім знаходзіўся валавы млын з адным колам і камянём, да якога ўваход быў ад дзядзінца. Падлога была драўляная. Да млына было дабудаванае невялічкае памяшканьне з цаглянай печчу бяз юшак, падлога была гліняная бітая, у памяшканьні былі зробленыя вокны ў млын і на мястэчка.

[1] **Дзядзінец:** 1) цэнтральная ўмацаваная частка раньнесярэднявечнага гроду або гораду, якая служыць сядзібай князю ці яго намесьніку, выконвае ваенныя, і адміністратыўна-палітычныя функцыі. 2) агароджаны пляц, двор пры якой – небудзь вялікай пабудове (гаспадарчай, жылой і інш.).

Каля млыну знаходзіўся лямус (альбо клець) – двухпавярховы драўляны будынак з гаспадарчымі памяшканьнямі, двума ганкамі, адзін над адным,і ўнізе дзьве залі і ўверсе дзьве, таксама і пад дахам дзьве залі, з зашклёнымі ветрынікамі, для складаваньня капчонасьцяў (вяндліны) і іншых харчовых прадуктаў. Такім чынам лямус меў 2 ганкі, 2 бакоўкі, 6 заляў, 24 сусекі, падлога драўляная, 8 акутых дзьвярэй пад ключ. У лямусе знаходзіліся розныя шалі, кадушкі, зэдлікі, 215 мяхоў з сукна, 4 бочкі з сялёдкай, 4 панарады, 4 сахі, 6 баронаў, 6 грабляў, 5 тачак, 7 сякер і шмат іншых рэчаў.

Да лямусу была дабудаваная мураваная дрывотня разам з кузьняй на два горны з комінам, дах пакрыты дахоўкай. Да кузьні дабудавана было памяшканьне з цаглянай падлогай, шведскай печчу, ашклёнымі вокнамі. У кузьні былі два кавальскія мяхі, 2 кавадлы, 18 розных малатоў, 15 напільнікаў, 2 станкі, тачыдла і яшчэ каля 30 штук розных інструмэнтаў.

Каля лямусу былі пабудаваныя мураваныя вінакурня на два горны з комінам і на два катлы, ў якой было розных цэбраў і бочак 134, а таксама металічныя пробкі (адслова «проба», прабіркі) і мернік алкаголю, саладоўня (месца, дзе варылі солад) з дзвюма фізічнымі печамі і бакоўкай, дзе расьцілі солад з печчу шведскай, хлеў на 13 катухоў, з яслямі і драбінамі, з драўлянай падлогай, муштарняй (памяшканьне, дзе трымалі рэчы, якія выкарыстоўваліся ў хляве), складам і памяшканьнем для фурманаў з цаглянай шэрай печчу, хлеў для гною зь яслямі і драбінамі і без падлогі, над гэтымі двума хлявамі былі зробленыя 2 склады для сена і саломы, вазоўня (месца, дзе трымалі вазы) 21 розных хамутоў: паштовых (9 штук), ворных, дышлёвых, дышлёвых рускіх, адзіночных з гужамі, выпражных, выпражных рускіх, 2 пазы, 11 аброцяў, 6 нашыльнікаў, 6 лейцаў, 3 рынгонты, 2 сядлы, 6 гун, 6 дуг, зграбло і шчотка, 2 падсядзёлкі, зялёнае сукно, 4 пяньковыя лейцы; брык 3, карафашак 4, 1 падвеска на рысорах, 4 кары на калёсы, 12 колаў, 2 палазы, 7 саняў, 1 кара на палазы, лазьня з калідорам, на канцы якога быў склад з сенямі, над лазьняй два аднаасабовыя памяшканьні з сенямі, з цаглянай печчу. Усе будынкі былі пакрытыя дахоўкай, а некаторыя часткі - гонтам і саломай. Усе вокны былі з жалезнымі кратамі. Паблізу знаходзілася драўляная студня, крытая, з драўлянай помпай.

Да гэтых мураваных будынкаў былі дабудаваныя стайня і хлеў для сьвіней.



**Цагляная агароджа былога Кармэліцкага сада па вул. Горкага, фота 1960-ых гг. Зьнесена ў пач. 1970-ых гг. На правы бок ад агароджы – стадыён. Ліпавыя прысады, сьпіленыя нядаўна, пад час рэканструкцыі стадыёна.**

### Сад і агарод

Паміж вазоўняй і кузьняй у мураванай агароджы была зроблена брама з двума дзьвярамі і фурткай, якая вяла на мост, які быў зроблены над дзьвюма сажалкамі. Мост быў вельмі якаснай работы: з добрага дрэва і з поручнямі з абодвух бакоў. Каля сажалак, з боку быў агарод, які таксама меў мураваную агароджу, а ад ракі – частаколам. Гэты агарод ад вуліцы мястэчка быў закрыты двума шэрагамі ліп, якія былі на працягу года стрыжаныя – таму мелі вельмі прыгожую форму[2], а ад ракі ў два шэрагі былі пасаджаныя ліпы, клёны і ляшчына. Сам агарод быў прызначаны для агародніны, таму быў падзелены на 42 адмысловыя кватэры, дзе ў кожнай вырошчвалі іншыя агародніны. Кожная кватэра была адасоблена натуральнай агароджай: агрэстам, парэчкамі, бэзам, барбарысам. Было таксама 15 зашклёных парнікоў.

Акрамя агароду быў там таксама і сад з фруктовымі дрэвамі. А менавіта: яблыняў з кіслымі яблыкамі было 200 штук, яблыняў з салодкімі яблыкамі – 33, маладых дрэўцаў, што трэці раз пладаносяць – 20, маладых яблынь, якія павінныя пладаносіць, – 194, грушаў розных гатункаў – 70, малодзенькіх дрэўцаў, якія яшчэ не пладаносяць – 1017.

Пасярод саду знаходзілася альтана, пабудаваная ў плане грэчаскага крыжа з пірамідай наверсе пасярод даху, а на пірамідзе шар, бляхай пакрыты. Альтана мела два ганкі і дзьверы з унутраным ключом, столь і падлога былі драўляныя, гонтам пакрытая, а ў ёй трымалі 2 бляшаныя палівачкі, 2 садовых нажніц, 6 рыдлёвак, барану на 25 жалезных зубоў, сякеру, пастку на кратоў. Каля гэтай альтаны непадалёк была іншая альтанка, засаджаная ў круг піхтай. Каля сажалак была трэцяя альтанка, мураваная, у форме квадрату, пакрытая гонтам.

Сад меў таксама дзьве фурткі (брамкі): адну на вуліцу мястэчка, а другую ў канцы пры могілках; усе дзьверы былі зробленыя на ўнутраныя замкі. У садзе былі таксама два жылыя дамы для працаўнікоў кляштара. Таксама ў канцы саду былі дзьве печы, вапненая і цагляная для выпаленьня кафлі, над якімі быў зроблены дах на драўляных падвалінах, а непадалёк стайня для палявых коняў, з дрэва зробленая, з адной сьцяной мураванай, саломай пакрытая, а па другой старане кляштарнага муру была зробленая яшчэ адна стайня (канюшня) даўжынёй 51 мэтар. Быў пабудаваны таксама яшчэ адзін жылы дом, драўляны сасновы з падмуроўкай, гонтам пакрыты і памаляваны.

[2] Вельмі часта можна сустрэцца з думкай, што Глыбокае было добраўпарадкавана толькі за «польскім часам» (1920-1939). Часта ўсё параўноўваецца – «а як было перад вайной»? Я ж хачу зьвярнуць увагу, што абы ўпарадкаваць Глыбокае ня быў патрэбны «польскі час». Глыбокае было ўпарадкавана ўжо ў XVII/XVIII стст. Калі, напрыклад, штосьці аднаўляць, то трэба зьвяртацца менавіта да XVIII ст., калі былі пекныя агароджы, корчмы, сажалкі, рэчкі, капліцы і каплічкі, альтанкі і лядоўні, розныя пароды дрэў: ліпы і клёны ў два шэрагі ўздоўж дарогі.

### Суконная фабрыка і цагельня

Каля самых могілак быў пабудаваны вялізарны драўляны сасновы будынак на два канцы з двума ганкамі, з саліднай падмуроўкай і склепам пад будынкам. Сам будынак быў падзелены напалам – у адным канцы была кляштарная суконная фабрыка, а ў другім жыў хірург, які працаваў у кляштары. Хірург меў 6 пакояў з кухняй і склепам, ганкам і 2 сенямі. Суконная фабрыка мела 3 вялікія пакоі, 2 сяней і ганак. Усяго ў будынку было 6 шведскіх печаў і дзьве цагляныя, з 4 комінамі над дахам, 21 вакно і 14 дзьвярэй. У сенях і адным пакоі фабрыкі падлога цагляная, у астатніх – драўляная.

У фабрыцы былі 3 ткацкія станкі, 10 калаўротаў, адмысловы калаўрот для фарбаваньня сукна, рамы для нацягваньня сукна даўжынёй 23,5 м, а шырынёй 2,5 м, 101 ангійская тактура, 102 рускія тактуры, 2 бібульныя тактуры, бязьмен на два пуды і шмат іншых інструмэнтаў, якія выкарыстоўваліся пры вырабе сукна.

Каля фабрыкі быў яшчэ адзін драўляны дом, які належаў кляштару, у якім ад 1795 г. жылі расейскія салдаты. Дом быў на два канцы, адзін быў для афіцэраў са шведскай печчу, а другі для салдат з такой самай печчу. Столь была драўляная, а падлога гліняная.

Непадалёк зходзілася цагельня з печчу на 12000 цаглін, а каля цагельні быў будынак, дзе цагліны рабілі і складавалі, дзе трымалі тачкі, рыдлёўкі, формы – усё, што служыла для цагельні, узведзена з дрэва і пакрыта саломай. Каля цагельні быў жылы дом для цагельшчыка з сенямі і цаглянай печчу, падлога была гліняная.

*Працяг будзе.*



**Агароджа Кармэліцкага сада (раён Копцеўкі), 2006 год. На здымку – Уладзімір Базан, фотамастак, тагачасны рэдактар «Віцебскага Кур'ера».** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Тэрыторыя колішняга Кармэліцкага сада ў 1930-ыя гг,** *фота Леанарда Рачыцкага.* На пярэднім плане – рака Пескаватка з боку сёньняшняй вул. Пушкіна. За ракой на пагорку – два будынкі лясьніцтва ў «закапанскім стылі», якія зьнішчаныя ў апошнюю вайну (захаваліся падмуркі і падвалы). У правым куце – вялікі гаспадарчы будынак. Паводле апісаньняў, у ім мусіла б быць кармэліцкая стайня для палявых коняў, якая ў 1930-ыя гг была прыстасаваная для патрэбаў лясьніцтва.

# У выпадку замору неабходна будзе дапамога грамадзян

■ **А.В. Протас**,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету зважае, што ў наш час на вадаёмах раёна назіраецца пагаршэнне ўмоў зімоўкі рыбы. Гэта злучана з рэзкім паніжэннем сярэднясутачных тэмператур, якая павялічваецца таўшчынёй лёду і багатым снежным полагам. На асобных водных аб'ектах могуць адзначацца перадзаморныя з'явы. На тэрыторыі Глыбоцкага раёна гэта азёры Царкавішча, Гулідаўскае, Алойсберг, Вялікае, вадасховішча «Азерцы» і некаторыя іншыя.

У мэтах прадухілення шкоды, які наносіцца рыбным рэсурсам, міжраённая інспекцыя звяртаецца да рыбаловаў-аматарам з просьбай прыняць актыўны ўдзел у высечцы майн і палонак, для насычэння вады кіслародам.

Арандатарам рыбалоўных угоддзяў, каб не дапусціць згубу рыбы, рэкамендуецца наладзіць перыядычны кантроль (не менэй аднаго разу ў 10 дзён) за ўтрыманнем растворанага кіслароду. Пры зніжэнні ўтрымання растворанага кіслароду ў вадзе да 3,0 мг/л, неабходна наладзіць прыладу майн, усталёўку трысняговых снапоў у прасечаныя лункі, расчыстку лёдавага поля ад снега для ўзмацнення фотасінтэзу. Пры немагчымасці прадухілення замору – арганізаваць максімальны адлоў рыбы з прыцягненнем усіх наяўных дазволеных прылад лоўлі. На азёрах Царкавішча і Гулідаўскае арандатары гэтых вадаёмаў гатовыя выканаць неабходныя ўмовы, але ў выпадку замору неабходна будзе дапамога грамадзян.

Пры неабходнасці, у выпадку ўзнікнення заморных з'яў рашэнне раённага выканаўчага камітэта па ўзгадненні з міжраённай інспекцыяй аховы жывёльнага і раслiннага свету, раённай інспекцыяй аховы прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя, часова, для грамадзян можа быць усталяваны парадак і ўмовы вылоўлівання рыбы без абмежавання колькасці, вагі рыбы і яе памераў, але толькі дазволенымі прыладамі рыбалоўства.

Вельмі вялікая просьба да ўсіх рыбаловаў-аматараў: у выпадках выяўлення перадзаморных ці заморных з'яў на адным з вадаёмаў раёна, неадкладна інфармаваць міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і раслiннага свету і раённы выканаўчы камітэт.

У той жа час звяртаемся яшчэ раз да рыбаловаў: не карыстацца чуткамі пра занясенне змен у Правілы рыбалоўства. Апошні час пачасціліся выпадкі затрымання грамадзян за лоўлю рыбы непадпісанымі жарліцамі. Парушальнікі сцвярджаюць, што яны бачылі і чулі, што ўнеслі змены ў правілы пра тое, што падпісваць жарліцы не трэба. Жарліцы павінны быць падпісаны, норма вылоўлівання рыбы на аднаго чалавека 5 кг. Якіх або змен у Правілы рыбалоўства не ўносілася, па любым пытанні Вы можаце звярнуцца ў Глыбоцкую міжрайінспекцыю па тэлефонах : 8-2156-28670 – кругласутачна, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49 МТС.

# Пракуратура Віцебскай вобласці накіравала ў гаспадарчыя суды 315 іскаў і заяў аб распачынанні загаднай вытворчасці на суму каля 26 млрд. рублёў

**У 2011 годзе органамі пракуратуры Віцебскай вобласці ў гаспадарчыя суды выстаўлена 315 іскаў і заяў аб распачынанні загаднай вытворчасці на агульную суму каля 26 млрд. рублёў. Пра гэта паведамілі ў Генеральнай пракуратуры Беларусі.**

У інтарэсах арганізацый дзяржаўнай формы ўласнасці выстаўлена 90 іскаў (заяў) на агульную суму звыш 7,5 млрд. рублёў, у інтарэсах прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу — на суму каля 5 млрд. рублёў.

Так, у верасні 2011 года пракурорам Лепельскага раёна выстаўлены іск на карысць Лепельскага лясгаса аб спагнанні з замежнага прыватнага вытворчага ўнітарнага прадпрыемства «Раўбел» доўгу ў суме 15,8 млн. рублёў, які ўтварыўся з-за неналежнага выканання дагавора куплі-продажу драўніны. Іск пракурора задаволены судом у поўным аб'ёме.

У сувязі з неналежным выкананнем сялянскай (фермерскай) гаспадаркай «Дубрава» дагаворных абавязацельстваў па аплаце атрыманага ў СПК «Ольгаўскае» элітнага насення пракурорам Віцебскага раёна ў верасні 2011 года адпраўлена ў гаспадарчы суд Віцебскай вобласці заява аб спагнанні з даўжніка на карысць сельскагаспадарчага кааператыва доўгу ў 21,9 млн. рублёў. Іскавыя патрабаванні судом задаволены.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

# У Хойніцкім раёне адзін зубр забіты, другі – цяжка паранены

**Хойніцкі РАУС вядзе следства па факце гібелі аднаго і ранення другога зуброў.**

25 студзеня ў Брагінскую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і раслiннага свету паступіла паведамленне, што на полі блізу адселенай вёскі Мокіш Хойніцкага раёна знойдзены зубры, адзін з якіх нерухомы.

Як паведамілі ў Гомельскай абласной інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету, рэйдавая група ў складзе прыродаахоўных інспектараў, паляўнічтвазнаўцаў Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка і міліцыянераў, якая выехала на месца, знайшла зуброў. Адзін з іх быў мёртвы, другі — з цяжкім раненнем, не здольны падняцца на канечнасці.

Устаноўлена, што ўзрост адной самкі зубра — 12–14 гадоў, другой, з эмбрыёнам, — прыкладна восем гадоў. Агульная вага зуброў 700 кг. Урон, нанесены незаконнай здабычай зуброў, склаў амаль 30 млн. рублёў.

У Хойніцкім РАУС не паведамляюць пра падазроных у забойстве зуброў, спасылаючыся на тое, што праводзіцца праверка. Як стала вядома БелаПАН, у раёне палявалі іншаземцы, грамадзяне адной з краін Балтыі.

Верагодна, яны і забілі самак зуброў і не праінфармавалі пра гэта праваахоўныя ці паляўнічыя структуры. Замежныя паляўнічыя паехалі на радзіму, а затым былі знойдзены самкі зуброў.

Меркаванне аб тым, што забілі зуброў менавіта гэтыя паляўнічыя, грунтуецца на экспертызе куль. Ёсць інфармацыя, што замежныя грамадзяне перабілталі зуброў з дзікамі.

*БелаПАН*

# Памежнікі, міліцыянты і леснікі разбурылі самагонны завод каля Лынтупаў

Супрацоўнікі памежнай службы, міліцыянты і лынтупскі ляснічы разбурылі прыладу для вытворчасці самагону ў лесе каля вёскі Ігнацішкі Пастаўскага раёна.

Як паведамляе Kraj.by са спасылкай на прэс-службу Смаргонскай памежнай групы, пяць 200-літровых бочак з брагай былі вылітыя на зямлю.

# У Віцебску сусед шуфляй адбіў 10-гадовае дзіця ад ратвейлера

■ **Наталля Партоліна**, kp.by

Саша Ладычына ў Віцебскай абласной дзіцячай бальніцы лечыцца ўжо тыдзень. Дактары абнадзейваюць яе маму: аперацыя прайшла паспяхова, усе пальцы на правай руцэ рухаюцца, працэс аднаўлення ідзе. Саша вучыцца іграць на скрыпцы, таму цалкам аднавіць усе функцыі кісці для яе асабліва важна. У бальніцы Саша апынулася пасля таго, як на яе ў двары напаў суседскі ратвейлер.

— Яна так страшна закрычала, што я не пазнала голас свайго дзіцяці! — успамінае Марына Ладычына, маці Сашы. — Я была дома, пачула крык, падумала: «Што магло здарыцца, што дзіця так крычыць?» Саша крычала: «Мама!», «Дапамажыце!».

У двары ў гэты час было некалькі чалавек. І толькі адзін мужчына, Аляксандр Шаляпнёў, кінуўся на дапамогу дзяўчынцы.

Астатнія з асцярогай назіралі здалёк, як ратвейлер грызе дзяўчынку, заціснуўшы ў пашчы яе руку.

Гаспадыня сабакі спрабавала адцягнуць яго, але нічога не магла зрабіць — жанчына даволі мініяцюрнай камплекцыі магутнаму сабаку проста фізічна не дала б рады.

Аляксандр Шаляпнёў адбіў дзіця ў сабакі шуфляй, якой перад гэтым расчышчаў снег каля свайго аўтамабіля. З цяжкасцю расціснуў сківіцы сабакі. Адвёў скрываўленую і перапалоханую дзяўчынку дадому, а потым, пасля таго як іншы сусед, медык Віктар Валавік, аказаў ёй першую дапамогу, адвёз на сваёй машыне ў бальніцу.

— Саша не рабіла нічога, што магло б справакаваць сабаку!

Не крычала, не размахвала рукамі, нічым не кідалася, — лічыць Марына Ладычына. — Яна проста ішла дадому. Там у снезе пратаптаныя вузенькая сцяжынка, і Саша глядзела пад ногі, каб не спатыкнуцца. Як мне казалі сведкі, жанчына з ратвейлерам спынілася на сцежцы, каб пагаварыць са сваёй знаёмай.

Яна яшчэ, кажуць, знаёмай, якая была з дзіцем, крыкнула: «Не падыходзь да мяне, бо я з сабакам!» — і размаўляла з ёй на адлегласці.

Саша заўважыла ратвейлера, толькі калі падышла ўшчыльную да сабакі. Сабака кінуўся на дзяўчынку. Саша паспела толькі прыкрыць твар рукой. У руку сабака і ўчапіўся.

Гаспадары ратвейлера прымчалі ў траўмапункт адразу ж услед за Сашай і яе мамай. Прывезлі даведкі, што сабака прышчэплены ад шаленства, нейкія граматы.

Расказвалі, што сабака для іх — як член сям'і, вельмі прасілі, каб Марына не настойвала на ўсыпленні.

Заяву ў міліцыю яна напісала, і з гаспадарамі ратвейлера будуць разбірацца праваахоўныя органы.

— Летась у дзіцячы траўмапункт са скаргамі на ўкусы жывёл звярталіся 237 дзяцей, — кажа намеснік галоўнага ўрача віцебскай абласной дзіцячай клінічнай бальніцы Ірына Юнес. — Толькі трое былі ўкушаныя дзікімі жывёламі, астатнія траўмы — на сумленні хатніх гадаванцаў.

Праект Закона аб абыходжанні з жывёламі цяпер знаходзіцца на разглядзе ў парламенце. Нагадаем, што да праекту прыкладзены спіс патэнцыйна небяспечных парод сабак, якіх у выпадку прыняцця закона будзе забаронена трымаць у кватэры.




## Раісу Вячаславаўну Паварэнь

**Віншуем з 45-годдзем!**



Пусть дни идут, тускнеют годы,
Уносят память и мечты.
Останься ты навек такою,
Как светлый лучик среди тьмы.
Где взять одних благополучий,
Так не бывает – это факт.
И пусть побольше будет «лучше»,
И меньше будет – «кое-как».
Тебе желаем в День рожденья,
Улыбок, радостных хлопот,
Здоровья, счастья и веселья
Сегодня, завтра, круглый год.

*З любоўю ад сям'і.*

**Дарагіх і любімых бацькоў**

## Эдуарду Аляксандраўну і Яўгена Браніслававіча Квача

**Ад усёй душы віншуем з залатым вяселлем!**



Пусть будет Ваша жизнь прекрасной,
И пусть среди душевной теплоты
Ещё не раз Вам улыбнётся счастье,
Ещё не раз исполнятся мечты!
Полвека вместе шли всегда.
Любовь во всём Вам помогала.
Нет, не страшны для Вас года,
Вы не хотите жизнь иную.
Так будьте ж молоды всегда,
Встречая свадьбу золотую!

*Дочкі, зяці, унукі.*

Навігатар GPS Neoline V4 Jet, на гарантыі. Т.: 891-91-19(мтс)

Канцэртны сінтэзатар Касіа, 5 актаў, у выдатным стане. Т.: 8-029-516-72-02

Спутнікавы цюнар. Дапамагу ўстанавіць. Т.: 712-91-58(мтс)

Фотаапарат FUJIFILM-AX 300, 900 тыс. руб. Т.: +37544-764-04-80(в)

Фотаапарат NIKON-COOLPIX L 23, 860 тыс. руб. Т.:8-029-513-02-66 (мтс)

## Прадам камп'ютары:

Камп'ютар і камплектуючыя да яго. Т.:8(029)294-36-16

Сістэмны блок на запчасткі. Манітор-17". Т.: 511-47-13(мтс)*

Нэтбук Aser e Machines 250-01616i, 1 год на гарантыі, выдатны стан, 270у.а.Т.:713-63-05(мтс)

Сістэмны блок, б/у, добры стан,Pentium-4 (3,0 Ггц), HDD-80Ггб, SD-RAM-1Ггб, DVD-RW, 350 Ват.; 120 у.а. , торг Т.:8-029-713-71-45(мтс)

Камп'ютар, без манітора. Т.: 595-61-80(мтс)

Прынтар ML-2010р. Т.: 309-48-23(мтс)

## Прадам будматэрыялы:

Батарэі чыгунныя. Т.: 8-033-677-53-33***

Выцяжку кухонную «Акро» б\у, 30у.а. Т.: 8-029-757-47-02(мтс)

Дошку неабразную 25мм. Т.: 595-42-08(мтс), 399-53-08(в)

## Куплю будматэрыялы:

Непатрэбныя вам старыя глухія дзверы, тыпавыя з ДВП, уваходныя і міжпакаёвыя, а таксама арматуру, металічныя пруты, тоўсты дрот, металічную сетку, якія былі ва ўжыванні, ржавыя, гнутыя. Т.: 8-029-715-93-53**

## Прадам ацяпляльнае абсталяванне:

Катлы ацяпляльныя на дровах, вугалю, брыкеце, шпалеры, будаўнічыя матэрыялы і гаспадарчыя тавары. Магчыма дастаўка. Аўтазапчасткі для легкавых аўтамабіляў і мікрааўтобусаў.Магазін «Бегемот», вул.Леніна, 87(з 9.00-18.00). Т.: 2-41-01

Кацёл для лазні (бани) высокапрадукцыйны, з жарастойкай сталі, новы. Кошт 3700000 руб. Т.: 8 (029)249-98-31 (мтс)

Бойлер электрычны воданагравальны «Фэролі», новы. Кошт 1300000 руб. Т.:8(029)120-82-52(вэл)

Катлы ацяпляльныя водагрэйныя, эксплуатуюцца на дровах, а таксама магчымы брыкет і вугаль. Сэртыфікаваны, з завадской гарантыяй. Вытв. г. Навасібірск (Расія). Высокапрадукцыйны, эканамічны, з убудаваным асобным бойлерам для гарачай вады: кухні і ванны. Кошт 4550000 руб. УНП 391054834 выд. Глыбоцкім РВК 22.03.2010. Т.: 8 (029) 714-00-74

Воданагравальнік «Арыстон» на 65л. Эксплуатаваўся 3 мес.Магу ўстанавіць бясплатна. Т.: 8-033-613-94-48

## Прадам тэлефоны:

Аксэсуары (батарэйкі, карпусы і інш.) ІП Сядова Н.У. УНН 391055205 Т.: 813-99-99⁺

Nokia-40-67, раскладушка. Т.: 591-82-69

Nokia N96, блютуз, флэш-карта на 2гб, 450000 руб. Т.: 8-033 308-27-02

Nokia-5530, белы, сенсорны, флэшка 2 Гб, камера 3,2Мп, добры стан, камплект, 930 тыс. руб. Т.: 599-51-50(мтс)

Nokia, усе функцыі, блютуз, інтэрнэт, MP-3, MP-4, флэш-карта, 500 тыс. руб. Т.: 293-70-51

Nokia, усе опцыі, MP-3, MP-4, блютуз, камера, інтэрнэт, вялікі дысплей, 530 тыс. руб, торг. Nokia-3310, ч\б, 150 тыс. руб. Т.: 896-42-83

Sony-Ericsson, каляровы, 2,0 камера, MP-3, MP-4, блютуз, флэш-карта, ФМ-радыё, інтэрнэт, навушнікі (арыгінал),550 тыс. руб.Т.:306-97-19*

Samsung-5230, чорны, сенсорны, MP-3, камера 3,2 Мп, добры стан, камплект, 650 тыс. руб. Т.: 592-91-49(мтс)

Samsung J700, слайдар, MP-3, ружовы, каробка, дакументы, добры стан, фота-відэакамера, слот для флэш-карты, 450 тыс. руб. Т.: 890-90-20(мтс)

LG, слайдар, бардовы, MP-3, блютуз, навушнікі, добры стан, камера, шнур для камп'ютара, радыё. Т.: 518-45-20

Андроід, усе опцыі, вялікі дысплей, MP-3, MP-4, блютуз, добры інтэрнэт, 2Гб флэш-карта, блютуз і г.д., суперстан. Т.: 293-70-51

## Абмен:

Тэлефон ZTE, раскладушка, крыху б\у, для Вэлком на тэлефон для МТС або прадам. Т.: 814-01-53(пасля 18.00)



## Бытавая тэхніка і газавае абсталяванне на продаж:

Розная бытавая тэхніка, халадзільнікі, эл\інструмент, пыласосы, прасы. Магазін «Бегемот», вул. Леніна, 87 (з 9.00-18.00). Т.: 2-41-01

Халадзільнік з маразільнай камерай зверху, новы «Атлант». Кошт 2550000 руб. Магчыма дастаўка. Т.: 8 (029)714-00-74 мтс

Маразільнік «Норд», 7-камерны, вялікі, новы, высокі.Кошт 4000000руб. Т.8 (029) 120-82-52 (вэлком)

Халадзільнік 2-камерны, новы. Т.8-029-891-75-69(мтс)

Сокавыціскалку "Скарлет", новую, 300.000 рублёў. Т.: 8-029-518-75-64

Тэлевізар «Гарызонт». Газавую пліту з выцяжкай. Т.: 893-25-12(мтс)

Газавы балон для газавай пліты б\у. Т.: 811-03-20****

## Куплю бытавую тэхніку і газавае абсталяванне:

Газавыя калонкі б\у любой мадэлі і года выпуска ў любым стане (сто тысяч рубл.) Т.: 750-65-44(мтс)*

## Прадам еміну:

Тушу кабана. Т.: 216-62-75(мтс)***

Бульбу вялікую. Т.: 8-033-337-21-33(мтс)

Паўтушы ялавічыны (мяса маладога бычка, задок), нядорага. Т.: 8-029-249-98-31(мтс)

Тушу кабана. Т.: 216-89-33(мтс), 2-90-97

Бульбу. Т.: 296-15-74

**У нядзелю 5 лютага на рынку ў Глыбокім будзе прадавацца мяса маладога бычка.**

Тушу кабана. Т.: 776-98-00(мтс)

Тушу кабана. Т.: 8-029 812-00-23

Тушу кабана. Т.: 8-029-249-07-30

Бульбу сярэднюю і дробную Т.: 876-49-63(мтс), 2-18-62

## Куплю еміну:

Мяса каня, каровы, авечак.Т.:719-05-79; 3-17-45**

Ялавічыну, БРС, каня. Т.: (029)719-05-79 (МТС); 3-17-45****

Ялавічыну, цяляціну. Дорага.Т.:8-033-309-68-96**

Мяса цяля і ялавічыну. Т.: 8(029)716-32-84 (МТС)******

## Прадам жывёлу, пчол, рыбак:

Кабана жывой вагой або мясам. Т.: 515-24-35(мтс)*

Маладую козачку 10 мес., беленькая, бязрогая. Т.: +37529-516-50-32

Кабанчыка да 100кг, в. Варганы. Т.: 8-033-649-46-77

Пару афрыканскіх страўсаў, узрост 3 гады. Тэл. 8-029) (593-10-45

Парасятаў в'етнамскай пароды. Т.: 8-033 697-20-41, 3-35-09 (Глыбокае)

Парасятаў в'етнамскай віслабрухай, травяднай пароды. Т.: 8-029 968-48-78, 8-02154-4-31-95

Каня рабочага. Т.: 4-14-25, 298-43-13(мтс)

## Куплю жывёлу:

Карову, каня, быка. Т.:8-033-317-85-90 (мтс)*

Карову, быка, авечак. Т.: 899-25-42(мтс), 716-91-78(мтс)⁺⁸

Карову, быка, каня, цяля. Т.: 714-73-11(мтс)***

Быка, карову вырастка. Т.: +37533-677-74-35**

Цяля для гадоўлі. Т.: 897-80-19***

## Аддам жывёлу:

Аддам у добрыя рукі маленькую чорную кошачку. Прывучаная да чысціні, туалета. Т.: 512-28-91(мтс)

Аддам у добрыя рукі кацяня, прывучанае да туалета. Т.: 8-029-259-08-88

## Прадам тавары для дзяцей:

Дзіцячы ложак з матрацам, ахоўнікам, б\у 6 мес., 750 тыс. руб. Т.: 8-029-293-39-54(мтс)*

Дзіцячую каляску. Т.: 324-04-91(мтс)

Калыску дзіцячую, ложачак дзіцячы, скакункі. Усё б/у, танна. Тэл. 3-90-49

Дзіцячае адзенне ад 0 да 1 года, крэсла для купання і крэсла для кармлення. Тэл. 8-029 717-33-67

## Куплю тавары для дзяцей:

Дзіцячае крэсла для кармлення б\у. Т.: 336-84-91(мтс)

## Прадам адзенне і абутак:

Чаравікі (ботинки) зімовыя мужчынскія на футры, новыя, мадэльныя, п-р 43-44. 8 (029)249-98-31 (мтс)

Шапку новую пясцовую (вытв. Віцебскмех), п-р 58, 1300000руб. Т.: 717-69-38(мтс)***

Куртку з натуральнай скуры мужчынскую, п-р 58. Т.: 2-48-95

Боты жаночыя зімовыя, п-р38. Т.: 2-48-95

Футра (шубу) нутрыевае, новае, п-р 46-48. Т.: 8-029 694-94-85

Дублёнку жаночую, п-р 52, на штучным футры з аддзелкай норкай, чорная, 1800000руб. Т.: 8-033-676-69-93*

Жаночае зімовае паліто на сенціпоне, чырвонае з узорамі, новае, 2 шт, 500 тыс. руб. Т.: 293-52-56(мтс)

## Прадам паліва:

**Дровы добрыя з дастаўкай. Т.: 8-029-514-21-76⁺¹⁷**

Дровы (бяроза) з дастаўкай. Т.:514-65-01(мтс), 8-033-612-33-50⁺¹⁰

Дровы двухметроўкі з дастаўкай, нядорага. Магу парэзаць і пасекчы. Маюцца сечаныя дровы. Т.:8(029) 249-98-31(мтс)

Дровы гатовыя з дастаўкай. Т.: 8(029) 814-73-36 (МТС)*

Дровы. Т.: 891-23-08 (МТС)*

Дровы, нядорага, па раёну. Т.: 592-39-66*

Дровы чуркі, 800 тыс. руб. Т.: 8-029-299-50-28**

Дровы (абрэзкі). Т.: 8-029-275-75-26***

Дровы сухія сечаныя. Т.: 8-029-216-11-77(мтс)

Дровы. Тэл. 8-033-676-02-92

Дровы з дастаўкай, ёсць парэзаныя. Т.: 891-08-45

Дровы з дастаўкай. Т.: 8-029-511-41-30

## Прадам насенне:

Ячмень, з дастаўкай. Т.: 594-78-56

Ячмень. Т.: 8-029-774-88-29 (мтс)

## Куплю калекцыі:

Любы дакумент ці рэч, якія маюць гістарычную каштоўнасць: паштоўкі і здымкі з відамі Глыбоччыны, кнігі аб Глыбоччыне, рукапісы, значкі, статуэткі, дакументы аб узнагародах і інш. Т.: 514-29-43 (Віктар)⁺

## Прадам іншае:

Электроды перамен. і пастаянн. 3мм і 4мм па 5 кг пачка,нядорага.
Т.: 817-44-04*

Новы слыхавы апарат. Тэл. 8-029 -514-02-66

Стругальны станок 3-фазны рухавік L=25см 5кВт, 3 нажы, з прыжымным, 5 аперацый, стол L=1,2м.
Т.: 817-44-04*

Кольцы калодзежныя. Дапамагу з дастаўкай, 10 шт.
Т.: 8-033-677-53-33****

Фігурныя канькі імпартныя, у добрым стане, п-р 35.
Т.: 8-029-101-83-10

Каркас цяпліцы з 7 дуг.
Т.: 8-029-515-12-01

Пячное паліва - керасін.
Т.: 8-02154-4-11-07, 599-11-07(мтс)

Бочку металічную 200л аднаразавага выкарыстання.
Т.: 598-98-95(мтс)*

## Куплю іншае:

Зацвярдзіцель для эпаксід. смалы 1,5л.
Т.: 817-44-04*

Балон кіслародны альбо вуглекіслотны. Акумулятар у нерабочым стане. Каталізатары машынныя. Т.: 299-23-20***

Дрот Д=4,6.
Т.: 8-029-598-28-52, 2-86-24 +7

## Паслугі:

Аксэсуары для мабільных тэлефонаў (батарэйкі,карпусы і інш.) ІП Сядова Н.У. УНН391055205.
Т.:813-99-99+

**Выканаю мантаж сістэм ацяплення і вадаправода поліпрапіленам і іншым матэрыялам, а таксама:усталяванне газавых і ц\паліўных катлоў *укладка цёплай падлогі, зборка і падключэнне душавых кабінаў і іншай сантэхнікі*урэзка лічыльнікаў вады і цяпла *выкананне эл\газазварачных работ. Акажу дапамогу ў выбары і дастаўцы матэрыялаў.Хутка. Якасна. Гарантыя.** ІП Новік УНН391052765ад30. 03.2009г.
**Тэл.:596-6501**(МТС), **483-45-03(В)**+

***Усталяванне газавых катлоў любой вытворчасці (пад ключ).Мантаж сістэмы ацяплення і вадаправода поліпрапіленам і іншымі матэрыяламі. Сантэхнічныя работы любой складанасці. Зварачныя работы любой складанасці(газа\электразварка). Акажу дапамогу ў выбары і дастаўцы матэрыялаў.Хуткасць! Якасць! Гарантыя! Ліц.11170 ад 21.09. 1999г.***
***Т.:713-61-94(МТС)***+

Рамонт, настройка, замена і ўстаноўка камплектуючых на вашым камп'ютары. Знаходжанне і ўстаноўка драйвераў на камп'ютары і ноўтбукі. Устаноўка аперацыйных сістэм і праграмнага забеспячэння. Шмат іншага. *ІП Сайкоўскі В. Ю. УНП 391056163.*
Т.: 8(029) 599-72-51

**У Мінск і з Мінска.** Хутка, зручна! ІП Шабан В.В. Ліц. Мінтранспарта № 3-32415 ад12.17.2007г да16.12.2012.
*Т.8033-646-21-99(МТС), 8-029-190-21-99(В)*+9

Грузаперавозкі любыя па гораду і РБ да 5 тон, ёсць грузчыкі. Таксама маецца аўтавоз-эвакуатар. Пасв. №391050456 ад 07.03.2008, выд. Глыбоцкім РВК.
Т.: 8 (029) 249-98-31 мтс

**Адвязу людзей у Дыягнастычны цэнтр.** ІПШабан В.В. Ліц.Мінтранспарта №3-32415ад12.17.2007г да16.12. 2012.
*Т.:8-033-646-21-99 (МТС), 8-0291902199(В)*+9

Рамонт легкавых а\м і м/а. УНН 391054834, выд. 22.03.10 Глыбоцкім РВК.
Т.: 8 (033) 677-86-23 (мтс)

**Заказныя пасажырскія перавозкі, семінары, вяселлі, экскурсіі. Камфартабельны аўтобус 8-15 месц, наяўны і безнаяўны разлік.** ІП Шабан В.В. Ліц. Мінтранспарта №3-32415ад12.17.2007гда 16.12. 2012.
*Т.:8-033-646-21-99 (МТС), 8-0291902199(В)*

Рамонт паліўнай дызельнай апаратуры. УНП 391451799 Бел НІІТ «Транстэхніка» № ВУ 112 04.12.06600400.
Т.: 8-044-704-45-09 (Віталь), 8-029-195-24-59 (Антон)

Рамонт кватэр і дамоў. Многаўзроўневыя паталкі, аконныя і дзвярныя адкосы, аркі., нішы. Гіпсакардон, МДФ, ПВХ, ламінат, кафельная плітка. Мантаж, устаноўка і падключэнне сантэхнікі, ваннаў, душавых кабін. ІП Матвееў С.І. Пасв. 391052829. Т.:8-033-613-94-48

## Шукаю працу:

Эл\мантажныя работы, чыстка бойлера, мантаж душкабін, ацяпленне, ламінат, адкосы, устаноўка дзвярэй, ПВХ, сантэхніка, мантаж катлоў і інш. Т.: 874-00-19(мтс)*

Устанаўлю ацяпленне, газавы кацёл, душкабіну. Сантэхніка, ПВХ, адкосы, плітка, вагонка, электрыка і інш. Без шкодных звычак.
Т.: 599-48-68**

Парэжу дровы.
Т.: 891-06-68, 4-15-88

Парэжу дровы.
Т.: 213-21-18

Повары прыгатуюць вяселле, дзень нараджэння, банкеты і інш.
Т.: 8-029-515-58-65, 8-029-212-96-77***

## Прапаную працу:

Прадаўца ў ГЦ «Для Вас». Т.: 2-31-29

ЧУП "Глыбоцкае ПМК" на сталую працу патрабуюцца: майстар сантэхнічных работ ці прараб, майстар будаўнічых работ ці прараб, электраманцёр. Аплата ад 2000000 руб. Глыбокае. Т.: 8(02156)2-26-28. унп 300019700

Патрабуецца газаэлектразваршчык, электрык па абслугоўванні ўстановак 380 вольт, прадстаўляецца жыллё ў інтэрнаце. Тэл. 8-02156-3-43-47, 8-02156-3-43-36

У ЧТУП патрабуецца вадзіцель для грузаперавозак: Беларусь-Расія. Вопыт работы катэгорый С, Д, Е. Т.: 8(029)715-64-14 (МТС); 8(029)512-13-00(МТС)

Прадаўца без шкодных звычак у прыватны магазін харчовых тавараў. Пажадана з вопытам работы.
Т.: 8 (029)211-27-11 (МТС)

Будаўнічая фірма ООО «Арыва» запрашае на работу высокакваліфікаваных рабочых будаўнічых спецыяльнасцяў, з\п да 3 млн. Патрабуецца майстар агульнабудаўнічых работ, забеспячэнец, бухгалтар.
Т.: 8-029-513-68-49 +7

Тэрмінова патрабуецца на работу прыбіральшчыца-апальшчык (истопник).
Т.: 8-029-155-56-63

Шукаю работніка парэзаць дровы.
Т.: +37533-317-97-75(мтс)

Патрабуецца вадзіцель кат. Е.
Т.: 8-029-626-49-73(в)

## Згуба:

Згублены дакументы. Просьба вярнуць за ўзнагароду. Т.: 814-17-65 (мтс) (Саша)*

**Згублены тэлефон у р-не вул. Міра. Просьба вярнуць за ўзнагароду.**
**Т.: 290-64-30(мтс)**



Прапаў сабачка, рыжы хлопчык Чыхуахуа. Знайшоўшаму - узнагарода. Т.: 8-029-632-76-45(в), 8-029-778-64-





**Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".**

## Да ўвагі чытачоў!!!

Паважаныя чытачы, рэклама- і абвесткадаўцы! Звяртаемся да Вас з вялікай просьбай. Выходзячы з вопыту работы з рэкламамі і абвесткамі, хочацца папрасіць Вас правільна даваць Вашы тэлефоны, а г. зн., заўсёды пісаць код, выразна друкаванымі літарамі пісаць змест абвесткі, і тады у нас з Вамі ніколі не будзе непаразуменняў. Ды і Вам хутчэй патэлефануюць, а не будуць наўгад набіраць код і трапляць да іншых людзей і папаўняць бюджэт кампаній. А пісаць патрэбна так: напрыклад, 8-029-298-43-78(мтс), 8-033-625-23-11(в).

***З павагай. Калектыў газеты "Вольнае Глыбокае"***

# Умацаванне імунітэту і ахоўных сіл арганізма народным сродкамі

**І зноў восень прайшла, дажджы, халады, а цяпер зіма, зіма, зіма… У прынцыпе, нічога ў гэтым дрэннага няма. Я нават вельмі люблю грэцца дома пад коўдрай у халодныя зімовыя вечары, папіваючы любімае какава. І ўсё б нічога, калі б не грып і ВРЗ.**



І зноў восень прайшла, дажджы, халады, а цяпер зіма, зіма, зіма… У прынцыпе, нічога ў гэтым дрэннага няма. Я нават вельмі люблю грэцца дома пад коўдрай у халодныя зімовыя вечары, папіваючы любімае какава. І ўсё б нічога, калі б не грып і ВРЗ.

Кожны год нам прагназуюць чарговую эпідэмію грыпу, выкліканую тым ці іншым тыпам віруса. Вядома, ад хваробы на ўсё 100% не ўсцеражэшся, але значна ўмацаваць імунітэт і падстрахавацца ад хвароб па поўнай праграме, вядома, можна і проста-проста неабходна. Умацаванне імунітэту і ахоўных сіл арганізма народнымі сродкамі - гэта самы бяскрыўдны і даволі эфектыўны спосаб прафілактыкі грыпу і ВРЗ без усякіх на тое пабочных рэакцый арганізма. Жадаю падзяліцца эфектыўнымі і карыснымі народнымі рэцэптамі для захавання моцнага здароўя.

Першым чынам, народная медыцына рэкамендуе ўмацоўваць і павялічваць жыццёвы тонус з дапамогай фітатэрапіі. Вітамінавыя чаі з рамонкам, ліпавымі кветкамі і пладамі шыпшынніка рэкамендавалася піць як у якасці агульнаўмацавальнага напоя, так і ў перыяд захворвання.

Добрай альтэрнатывай аптэчным вітамінавым прэпаратам паслужыць наступны багаты вітамінамі склад: 200 г разынак,200 г курагі, 200 г фінікаў без костачак, 200 г інжыра,200 г вычышчаных грэцкіх арэхаў, 200 г лімона з лупінай, 200 г мёда,100 г альваса

Усе кампаненты неабходна здрабніць пры дапамозе мясасечкі, змяшаць з мёдам. Атрыманы склад рэкамендуецца прымаць па адной чайнай лыжцы тры разы ў дзень на працягу месяца, затым месяц перапынку і зноў паўтор курсу. "Вітамінавы кактэйль" неабходна захоўваць у халадзільніку ў цёмным зачыненым посудзе. Такі склад мэтазгодна прымаць у халодны восеньскае-зімовы перыяд, а таксама вясной, калі арганізм мае патрэбу ў дадатковым вітамінавым падсілкоўванні.

Чырвонае віно, якаснае і натуральнае, вельмі добра паляпшае працу імунных клетак. Прымаць такі "напой богаў" рэкамендуецца па паўшклянкі ў дзень. Але варта памятаць, што цяжарным і мамам, якія кормяць, умацоўваць ахоўныя сілы арганізма дадзеным спосабам не рэкамендуецца.

Магчыма, мала хто ведае, што грыбы спрыяюць выпрацоўцы ў арганізме чалавека лейкацытаў, белых крывяных цельцаў. Дзякуючы ўжыванню ў ежу грыбоў, павялічваецца колькасць "белых клетак", што павялічвае актыўнасць арганізма ў барацьбе з бактэрыямі і вірусамі. Ізноў жа жадаю перасцерагчы ўважлівага чытача, што ва ўсім павінна прысутнічаць "залатая сярэдзінка", бо тое, што карысна ў маленькіх дозах, можа нашкодзіць пры злоўжыванні.

Сагравацца цёплым ці гарачым чаем не толькі прыемна, але і карысна. Духмяны чай, зялёны ці чорны, дабратворна ўздзейнічае на ўмацаванне імунітэту, а такія рэчывы, як поліфенолы, якія змяшчаюцца ў ім, нейтралізуюць вольныя радыкалы, што спрыяе запаволенню працэсу старэння арганізма.

Усходняя і тыбецкая медыцына прапануюць выдатны гаючы чай супраць грыпу, вострых рэспіраторных і вірусных інфекцый: 1-2 сталовыя лыжкі дробна нарэзаных галінак маліны неабходна заліць шклянкай кіпеню і кіпяціць 10 мінут, затым настаяць на працягу гадзіны. Атрыманы напой рэкамендуецца піць па 1/4 шклянкі кожную гадзіну на працягу ўсяго дня.

Як бачым, для ўмацавання імунітэту і ахоўных сіл арганізма народнымі сродкамі не трэба ісці ў аптэку за дарагімі прэпаратамі. Усё, што прапануе нам матухна-прырода лёгкадаступна і вельмі эфектыўна. Важна таксама памятаць і пра карысць рэгулярнага гартавання, прагулак на свежым паветры, паўнавартасным сілкаванні і дабратворным уздзеянні фізічных практыкаванняў на арганізм чалавека. Важна таксама выпраменьваць і прыцягваць станоўчыя эмоцыі, якія ствараюць выдатную аўру арганізма і фармуюць моцны і дужы імунітэт. Памятайце, ваша здароўе ў вашых руках, клапаціцеся пра яго і ўмацоўвайце яго рэгулярна!

# Ці патрэбна арганізму чыстка?

**Неабыякавых да свайго здароўя людзей час ад часу наведвае ідэя ўладкаваць сабе добрую чыстку. Асабліва - пасля святочных празмернасцяў. Пройдземся па месцах, якія часцей за ўсё падвяргаюць чысткам, і разбяромся, чаму лекары лічаць гэты занятак прынамсі бескарысным.**

**Вушы**

**Чым?** У ход ідуць прадметы, памеры якіх дазваляюць прасунуць іх у слыхавы праход.

**Навошта?** Робіцца гэта для таго, каб выняць з вуха серу. У рэальнасці эфект процілеглы: дыяметр звычайнай ватнай палачкі такі, што ёю можна толькі праштурхнуць серу ўнутр, тым самым стварыўшы ўмовы для яе назапашвання і фармавання коркі.

**Ці трэба?** Вушы – канструкцыя, якая ачышчаецца сама,, Лазіць унутр староннімі прадметамі лекары не рэкамендуюць. Калі ж сера назапашваецца, чысткамі гэту праблему не вырашыць - яна азначае, што па нейкім чынніку слыхавы праход звужаны, а яго сценкі страцілі рухомасць. Лішак серы можа быць і сімптомам цукровага дыябету.

**Печань**

**Чым?** Аліўкавае масла літрамі, вараная грэчка кілаграмамі, лімонны і яблычны сокі, мінеральная вада, грэлкі, гарачыя ванны, магніты, паглынанне артышокаў - усё гэта актыўна выкарыстоўваецца для так званай чысткі печані.

**Навошта?** Па меркаванні прапагандыстаў чысткі, печані трэба дапамагаць пазбаўляцца ад шлакаў, камянёў, наступстваў ужывання лекаў, ужыванні няякаснай ежы і іншай «дрэннай экалогіі».

**Ці трэба?** Ніякіх шлакаў у печані няма. У жоўцевым пузыры, які злучаны з ёй пратокамі (а часам у саміх пратоках) сапраўды могуць быць камяні, але спробы свядома «пачысціцца» ад іх амаль стоадсоткава скончацца ў лякарні, дзе вы будзеце вызвалены ад каменьчыкаў (і ад пузыра заадно) з дапамогай хірургічнага скальпеля. Існуе такая працэдура, як цюбаж, якая выкарыстоўваецца ў медыцыне для ўхілення застою жоўці, але яна праводзіцца пад кантролем лекара і абавязкова пасля УЗІ, якое пакажа, што ў жоўцевым пузыры сапраўды маецца застой і няма камянёў.

**Кішэчнік**

**Чым?** Раней кішэчнік чысцілі з дапамогай клізмаў, цяпер для гэтага ўжываюць «гідракалонотерапию» - сутнасць тая ж, затое працэс абсталёны максімальна эстэтычна.

**Навошта?** Прыхільнікі чыстак любяць распавядаць пра камяні ў кішэчніку, жудасных паразітах і шлакавых завалах, ад якіх паважаючы сябе чалавек проста абавязаны пазбаўляцца.

**Ці трэба?** Камяні ў кішэчніку не растуць. Ад таго, за што іх прымаюць, арганізм умее пазбаўляцца натуральным шляхам. Калі па гэтай частцы ёсць праблемы, займацца трэба нармалізацыяй працы кішэчніка - з дапамогай харчавання і лекаў, а не чыстак. Паразіты, нажаль, сустракаюцца, але клізмы для іх - як слану драбіна. Затое руплівымі прамываннямі кішэчніка можна парушыць баланс мікрафлоры і пазбавіць яго карысных бактэрый.

**Ныркі**

**Чым?** У ход ідзе ўсё, што валодае мачагонным эфектам - морсы, травяныя зборы, кавуны, мінеральная вада, нават піва.

**Навошта?** Мяркуецца, што мачагонныя сродкі



чысцяць ныркі ад пяску і камянёў, а арганізм у цэлым - ад шлакаў і таксінаў.

**Ці трэба?** Ад шлакаў і таксінаў здаровы арганізм пазбаўляецца сам, а хворы чысціць дарэмна- трэба лячыць. Ныраччыя камяні сапраўды можна драбніць, і яны, у адрозненне ад жоўцевых, могуць выйсці самі, аднак самадзейныя спробы пазбавіцца ад іх могуць скончыцца паездкай на хуткай дапамозе ў найбліжэйшую лякарню.

**Медадказ**

Нашы органы не маюць патрэбу ні ў чыстках, ні ў адпачынку

У студзені, калі сканчаецца чарада свят, шмат хто садзіцца на дыету, тлумачачы гэта неабходнасцю даць арганізму адпачыць. Ці мае патрэбу ён у адпачынку, мы папрасілі растлумачыць дыетолага, эндакрынолага Майру Кадыраву, галоўнага лекара Медыцынскага дыеталагічнага цэнтра

- Калі пад адпачынкам маюцца на ўвазе разгрузныя дні, іх можна сабе ўладкоўваць - без фанатызму, вядома, і калі няма паталогій ЖКТ, цукровага дыябету, іншых сур'ёзных захворванняў, якія могуць абвастрыцца пры рэзкай змене дыеты. На працягу тыдня можна абраць адзін-два дні і разгрузіцца, напрыклад, на кефіры і тварагу (200-500 г абястлушчанага тварагу, 1-1,5 л кефіру плюс дастатковая колькасць вадкасці), садавіне і гароднiне.

Для шматлікіх разгрузных дні з'яўляюцца псіхалагічнай падрыхтоўкай да наступнай змены ў харчаванні, звароту да ўмеранасці. Але лягчэй прадухіліць чыннік. Калі харчавацца правільна - ужываць збожжавыя, гародніну, садавіну, малочныя і бялковыя прадукты, алей, досыць піць, выконваць інтэрвалы паміж прыёмамі ежы, арганізм цалкам паспявае адпачываць за ноч і ў прамежках паміж снеданкам, абедам і вячэрай. І так не толькі з органамі стрававання. Напрыклад, сардэчная мышца працуе ўсё жыццё і, калі яе не перагружаць, не стамляецца, таму што ў цыкле сардэчнага рытму 50 % часу сэрца адпачывае. То ж тычыцца і ачышчэння арганізма: калі лёгкія, печань, кішэчнік, ныркі, мачавая сістэма функцыянуюць нармальна, ніякіх дадатковых чыстак не патрабуецца.

## ІМЯНІНЫ

**2 лютага**
**Пр.**: Рымы, Яфіма.
**К.:** ГРАМНІЦЫ, Марыі, Аскара, Карнеля, Міраслава.

**3 лютага**
**Пр.:** Агніі, Валяр'яна, Іллі, Максіма.
**К.:** Яны, Блажэя, Іпаліта.

**4 лютага**
**Пр.:** Гаўрылы, Георгія, Лявонція, Макара, Мікалая, Якава.
**К.:** Веранікі, Андрэя, Юзафа.

**5 лютага**
**Пр.:** Еўдакіі, Кацярыны, Клімента.
**К.:** Агаты, Адэлаіды, Ізыдара.

**6 лютага**
**Пр.:** Ксеніі, Анастаса, Гераніма, Івана, Цімафея.
**К.:** Дароты, Аманды, Паўла, Багдана, Ціта.

**7 лютага**
**Пр.:** Анатоля, Віталія, Рыгора, Івана, Уладзіміра, Майсея, Пятра, Фелікса, Філіпа.
**К.:** Рамуальда, Рышарда.

**8 лютага**
**Пр.:** Марыі, Антона, Аркадзя, Івана, Іосіфа, Сямёна, Фёдара.
**К.:** Гераніма, Пятра, Яна.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Князь с востока | ↓ | ... для вышивки | Сарай для скота | ↓ | Народ в Азии | Жилище монаха | Река в Новосибирске | Маникюрный инструмент | Пиратская виселица |
| Цокотуха | → | ↓ | ↓ | | Гос-во в Средиземном море | → ↓ | ↓ | ↓ | ↓ |
| Школьная работа | → | | | | | | | | |
| → | | | | Поп-... | Младенец | → | | | |
| Повесть Максима Горького | Обноски | → | | ↓ | | | Блудный ... | | Крупный морской житель |
| Насморк | Дирижабль Умберто Нобиле | Жанр японского театра | Малая планета | | Пушной налог в старину | → | ↓ | | ↓ |
| → | ↓ | ↓ | ↓ | | Поклонник Мальвины | Время суток | | Питательный напиток | |
| Площадка для молотьбы | → | | | ... назначения | → ↓ | ↓ | | ↓ | |
| Ухогорлонос | | Низкий детский голос | → | | | | Город в Бельгии | | Часть пьесы |
| ... и меч | → | ↓ | | Родственник вереска | → | | ↓ | | ↓ |
| → | | | Мистер Икс | Льдина в торосах | | | | | |
| Кушанье | → | | | | | ... до ушей | → | | |

**Ответы на сканворд № 4**
**По горизонтали:** Зоя. Куга. Приз. Нужда. Ер. Икт. Поза. Эль. Бдение. Шпон. Носов. Волхв. По. Реактор. Богач. Инд. «Песняры». **По вертикали:** Лаура. Опак. Яр. Крепыш. Гнездо. Зелье. Диод. Тэн. Лидо. Еропкин. Прогон. Нахрап. Сотня. Вор. Вече. Одр.

# Гараскоп
## на новы тыдзень



**АВЕН.** Увесь тыдзень прыйдзецца актыўна працаваць; на службе аўрал, ёсць рызыка допусціць памылку, аналагічную ранейшай, забыўшыся пра атрыманы раней досвед. Калі зноў выявіце нядбайнасць, цярпенне начальства можа скончыцца. У гэтым выпадку аднавіць ранейшы аўтарытэт можна, беручы ўдзел у нефармальных мерапрыемствах, карпаратывах. Роля дасведчанага заступніка вам будзе імпанаваць больш за ўсё, узяць кантроль над акалічнасцямі атрымаецца з першай спробы. Тыдзень скончыцца на рамантычнай хвалі.

**ЦЯЛЕЦ.** Настае зорны час на службе; працадаўцы будуць шанаваць вас на вагу золата. Працоўны патанцыял велізарны: вам па сілах працаваць за траіх і атрымліваць



адпаведную зарплату. Нюх на грошы ў вас выдатны, таму можна смела ўкладваць фінансы ў разліку на бяспройгрышныя варыянты. Рабіце ўсё, каб быць лепш за іншых. На любоўным небасхіле ўзыходзіць шчаслівая зорка. Дайце волю сэрцу, хай напаўняецца энергіяй шчасця.



**БЛІЗНЯТЫ.** Падзеі тыдня патрабуюць настойлівай працы над уласным «эга». Хтосьці з вашага асяроддзя апярэдзіць вас у кар'еры. Звяртаючыся да неканструктыўнай крытыкі, вы рызыкуеце парушыць гарманічныя адносіны з людзьмі. Аддайце яму перавагу без шкадавання, часам нават прыемна знаходзіцца на другім плане. Вашу сям'ю чакае папаўненне ў агульнай казне. Паспрабуйце купіць латарэйны квіток, магчыма, гэта той самы шанец разбагацець. У выхадныя не грэбуйце адпачынкам у кампаніі правераных сяброў.



**РАК.** Тыдзень спрыяльны для зносін і далёкіх паездак. Дзелавыя прапановы, якія паступяць, дапамогуць скласці план на ўвесь 2012-ы год. Калі раптам расчаруецеся ў людзях, якіх ідэалізавалі і нават абагаўлялі, не хвалюйцеся, гэта ў планах Нябёсаў. Да канца працоўнага тыдня пажадана паменшыць працоўны тэмп; энергарэсурсы на мінімуме, таму прытармазіце. Больш адпачывайце, разважайце, каб навесці парадак у душы і прапрацаваць памылкі. Эканомна размяркоўвайце сілы, каб не захварэць.



**ЛЕЎ.** Тыдзень важны для кар'ернага росту. Арыгінальнасць і нетрадыцыйны падыход да спраў - вось што стане закладам паспяховай будучыні. Не шкадуйце грошай, спрабуючы эканоміць на дробязях, паколькі страціце большае. Пакуль вы залежныя ад рэсурсаў іншых людзей, будзьце больш шчодрымі - больш атрымаеце. Добрасумленна працуйце, ад чаго шэф будзе ў захапленні, і ўмацоўвайце дзелавыя масты, паколькі дзякуючы калегам і кампаньёнам вам будзе ўсміхацца поспех. Калі адчуеце слабасць, не займайцеся самалячэннем. Выхадныя правядзіце разам з аднадумцамі.



**ПАННА.** Напачатку тыдня прадстаўнікам знака ўдасца ўвайсці ў маштабны праект. Атрымлівайце асалоду ад службовыга шчасця. Не спрачайцеся з начальствам, старанна прытрымвайцеся субардынацыі. У справах выяўляйце прынцыповасць. Схільнасць да хітрыкаў і лавіравання - гэта следства негатыўнай кармы, і калі акалічнасці правакуюць вас да несправядлівых дзеянняў, памятайце пра прыстойнасць. Праводзьце больш часу з сябрамі і, пажадана, па-за хатнімі сценамі - гэта дазволіць вам зарадзіцца энергіяй на год наперад.



**ШАЛІ.** Бярыцеся за справы, якія натхняюць, гвалтаваць сябе нуднай працай не варта. Калі дзеля грошай і асабістай выгады вы затачылі сябе ў турму абавязкаў, не перастарайцеся, захапіўшыся працоўным запалам. Хутчэй за ўсё, нядобразычліўцы нарэшце пакінуць вас у супакоі. Але для гэтага вы павінны беспамылкова адрозніваць фантазію ад рэальнасці, інакш загразнеце ў струмені чужых праектаў. Магчымыя лёсавызначальныя нечаканасці, якія будуць дадзеныя для праверкі сілы волі і імкнення ў жыцці.



**СКАРПІЁН.** Поспех стане вам дакладным спадарожнікам. Калі выявіце дыпламатычнасць, атрымаеце падвышэнне па службе; пры гэтым наколькі своечасова вы прадэманструеце прафесіяналізм, настолькі вам будзе прасцей у далейшым. У другой палове тыдня магчымыя канфлікты з людзьмі, старэйшымі па ўзросце і пасадзе. Будзьце цярплівыя да чужых недахопаў. У адносінах з блізкімі - супакой і паразуменне. Актыўныя і рызыкоўныя віды адпачынку - не лепшы выбар узімку.



**СТРАЛЕЦ.** Не варта марнатравіць энергію на мітусню , ёй няма ні канца, ні краю. Ад шэфа не хавайцеся, цяпер вы ў яго ў фаворы: цеснае з ім узаемадзеянне адновіць шчырыя адносіны, што стане закладам кар'ернага росту. Калі вам ахвотна ідуць насустрач у просьбах, падзяляюць погляды, цешцеся - вы на правільным шляху. Злучыце ідэі рэарганізацыі ў дзіўны кактэйль крэатыўнасці і «частуйце» гэтым чароўным напоем акружаючых. У выхадныя адпачніце ад клопатаў, толькі абавязкова з другой палоўкай.



**КАЗЯРОГ.** Могуць паўстаць цяжкасці па месцы працы. Даручэнні выконвайце спакойна - без лішняга запалу; на крытыку рэагуйце адэкватна, не марнатравячы адрэналін на стрэсы. Прынцыповасць, якая мяжуе з упартасцю, вам не ідзе; цяпер вам не патрэбны разлад з акружаючымі - гэта можа разбурыць у тым ліку і сямейную сувязь. Сям'я - гэта важна, не забывайце цешыць блізкіх прыхільнасцю і дабрынёй. Вашы старанні забяспечаць сямейнаму гняздзечку ўтульнае становішча. Надайце неабходную ўвагу і здароўю.



**ВАДАЛЕЙ.** Напачатку тыдня канфліктныя сітуацыі ўзнікаюць спантана і, пераважна, па месцы працы. Можна адчуць негатыўнае стаўленне з боку калегаў. Не варта цяпер ісці на абвастрэнне адносін. Не спрабуйце абысці закон ці ашукаць кіраўніцтва - такі план асуджаны на правал. Усе канфлікты вырашацца з дапамогай гумару. Не забывайце пра адпачынак, правядзіце яго з карысцю. У канцы тыдня падзьмуць іншыя вятры, наперадзе год змен, з'явяцца новыя перспектывы і інтарэсы.



**РЫБЫ.** Прасоўванне па кар'ерных прыступках тармозяць бытавыя праблемы, таму ўладзьце фінансавыя пытанні, разлічыцеся з крэдыторамі. Дэманструючы матэрыяльную шчодрасць і высакароднасць душы, засцеражыце сябе ад рызык; але калі раптам кашалёк спустошыцца, не адчайвайцеся, лёс усё кампенсуе. Верагодныя кантакты з уплывовымі асобамі, кантрольнымі арганізацыямі ці прадстаўнікамі ўладных структур. На выхадныя не варта планаваць новых спраў, усе высілкі будуць накіраваны для завяршэння ўжо пачатага.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.

«Вольнае Глыбокае»
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 31.01.2012 г. у 20[50]

«Вольнае Глыбокае» надрукаванае на газетнай паперы **РВУП «Завод газетнай паперы» (г. Шклоў).**

Наклад 1850 паасобнікаў

**Рэдактар:** Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
Тэлефон/факс: (02156) 2-46-14;
**E:mail: vglybokaye@tut.by**
Адрас для допісаў:
**211800, г. Глыбокае, п/с №3**

**Замова 464**

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор фактаў. Спасылкі на «Вольнае Глыбокае» абавязковыя.

Газета набраная і звярстаная на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукаваная ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк.

Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, пак. 1, г. Глыбокае

ISSN 2077-8023

